● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

22 кастрычніка 1996 г.
аўторак,
№ 254 (23057)



# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

## СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ У МАСКВЕ ДАЛА ІМПУЛЬС ІНТЭГРАЦЫІ

**Рабочая сустрэча кіраўнікоў урадаў дзяржаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якая адбылася ў Маскве 18 кастрычніка, аказалася вельмі плённай для ўсіх яе ўдзельнікаў.**

Яна стала своеасаблівым падвядзеннем вынікаў пяцігадовай гісторыі існавання СНД. Выступаючы на пасяджэнні, прэм'ер-міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін падкрэсліў, што рэалізацыя дагавораў «чацвёркі» і «двойкі» сведчыць аб выбары правільнага шляху для цывілізаванага развіцця СНД. Удзельнікамі сустрэчы было разгледжана і падпісана каля 20 дакументаў. Адным з галоўных пытанняў у парадку дня быў праект плана далейшай інтэграцыі, які прадугледжвае ўмацаванне мытнага саюза, стварэнне плацежнага і валютнага саюзаў, агульнай навукова-тэхнічнай і інфармацыйнай прасторы.

Як паведамлялася ўжо, у сустрэчы прыняла ўдзел беларуская дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам. «Без інтэграцыйных працэсаў, — сказаў ён, падводзячы яе вынікі, — нам будзе цяжка, што пацвердзіла і даказала жыццё. Гэта датычыць выкарыстання патэнцыялу абаронных прадпрыемстваў Беларусі, які дае магчымасць стварыць новыя рабочыя месцы, сумеснага рамонту і абслугоўвання авіяцыйнай тэхнікі, шэрага іншых праектаў. Характэрна, што большасць дакументаў мела канкрэтны гаспадарчы характар, і, што вельмі важна для Беларусі, большасць з іх была эканамічнага характару».

Сярод асноўных дамоўленасцей кіраўнік урада назваў перш за ўсё ўзгадненне тарыфаў на чыгуначным транспарце. Сёння перамяшчэнне грузаў па Расіі на вялікія адлегласці абыходзіцца нятанна, а гэта стварае шэраг перашкод для забеспячэння нашага народнагаспадарчага комплексу сыравіннымі і матэрыяльнымі рэсурсамі.

Дэталёва абмяркоўвалася пытанне стварэння транснацыянальнай кампаніі ў сферы выкарыстання магутнасцей па вытворчасці аўтамабіляў. На думку прэм'ер-міністра, яе функцыянаванне дасць магчымасць як Расіі, так і Беларусі пазбегнуць дубліравання. Аднак для нармальнай работы кампаніі з боку ўрадаў дзвюх краін павінна быць аказана практычная дапамога.

Кіраўнікі ўрадаў палічылі неабходным фарміраванне і фінансавай-прамысловай групы «Граніт». Яна прызначана для акумуліравання магутнасцей па вытворчасці электроннай тэхнікі, неабходнай для ваеннай прамысловасці. Ад Беларусі ў гэтай групе пакуль што прадстаўлены тры прадпрыемствы.

Вельмі важным для Беларусі было абмеркаванне ўмоў дзейнасці Міждзяржаўнага банка. Прадстаўнікамі ўрадавай дэлегацыі было пры гэтым устаноўлена, што Міждзяржаўны банк ні ў якай меры не замахваецца на нашы нацыянальныя законы. «Як і транснацыянальныя кампаніі, ён павінен стаць выратавальнай «палачкай», якая дапаможа палепшыць сітуацыю ў нашай эканоміцы, — выказаў спадзяванне прэм'ер-міністр. — Што датычыць паставак паліва, то мы павінны прызнаць: у нас сапраўды ёсць праблемы па пастаўках газу і нафты на тэрыторыю рэспублікі. Гэта звязана перш за ўсё з пагаршэннем стану разлікаў. Калі мы прымем канкрэтныя і эфектыўныя меры ў гэтым напрамку, то праблем па забеспячэнню рэспублікі энергетычнымі рэсурсамі не будзе».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## КУРС ДОЛАРА РАСЦЕ СЛЕДАМ ЗА ПАВЫШАЮЧЫМ КАЭФІЦЫЕНТАМ

**У канцы мінулага тыдня быў перагледжаны павышаючы каэфіцыент, які дазваляў камерцыйным банкам устанаўліваць курс долара на ўзроўні 18.600 рублёў. Ён узрос з 1,2 да 1,5. Дзякуючы гэтаму долар можа спыніцца толькі на адзнацы 23.250 рублёў. З папярэднім каэфіцыентам пункты абмену валюты працавалі больш за месяц.**

Некаторыя банкі і практычна ўсе працуючыя на валютным рынку фінансавыя кампаніі здолелі тады стварыць канкурэнцыю камароўскім «мянялам». У якасці своеасаблівага «пасрэдніка» паміж доларам і беларускім рублём раптам выступілі іншыя кансерсоўныя валюты: англійскі фунт стэрлінгаў, галандскі гульдэн ці нават украінская грыўна. Ніхто з нас, вядома, гэтых грашовых знакаў у вочы не бачыў, але быццам бы абменьваўся імі з банкам. Пералік па схеме валюта — валюта — «заяц» пасняхова дазволіў абменным пунктам выходзіць за ўсталяваныя межы.

Калі на пачатку мінулага тыдня магло пашчасціць купіць «зялёны» за 18.600 рублёў, то напярэдадні выхадных менш чым 19.250 рублёў за долар не прасілі. Разам з амерыканскай валютай новы імпульс для росту атрымалі нямецкая марка і расійскі рубель.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ВАКОЛ «МАГНАТБАНКА» І ІНШЫХ...

**Пастановай Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь ад 10 кастрычніка 1996 г. прызнаны несапраўднымі рашэнні праўлення і распараджэння Нацыянальнага банка аб прымусовай ліквідацыі і стварэнні ліквідацыйных камісій па банках «Дукат», «Магнатбанк» і «Інтэкс».**

Рашэнне суда выклікала заклапочанасць укладчыкаў па вяртанні сваіх грошай, пацягнула масавы зварот іх у Нацыянальны банк.

У сувязі з гэтым Нацыянальны банк вымушаны заявіць, што не нясе адказнасці за прынятае рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда, якое пацягнула за сабой немагчымасць выканання абавязацельстваў перад фізічнымі асобамі-ўкладчыкамі.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Закона «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» выплата названых укладаў у першачарговым парадку магчыма толькі пры вырашэнні пытання аб ліквідацыі банка.

У сувязі з адсутнасцю прававых падстаў Нацыянальны банк не мае магчымасці правесці разлікі з насельніцтвам (укладчыкамі ўказаных банкаў) за кошт гарантыйнага фонду абароны ўкладаў і дэпазітаў фізічных асоб.

**Прэс-служба Нацыянальнага банка Беларусі.**

## ДА МАКАВАЙ САЛОМКІ «ДАЛУЧАЮЦЦА» ПЕНСІЯНЕРЫ...

**Чым толькі не займаюцца сучасныя старыя, каб зарабіць сабе на «чорны дзень» лішні рубель, а калі пашанцуе — дык і долар.**

Так, напрыклад, у ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў на пункце таможнага агляду «Церуха» ў дызель-поездзе «Гарнастаеўка—Гомель» былі знойдзены тры пакеты з макавай саломкай. Як было ўстаноўлена, «каштоўны» груз вагой больш за 10 (!) кілаграмаў належаў дзвюм пенсіянеркам, жыхаркам суседняй Украіны, а везлі яны яго на продаж у Рагачоў. Цяпер месца набыцця зелля ўстанаўліваецца, а старыя затрыманы.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



### АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАМЫСЛОВАЙ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА ВЕРАСЕНЬ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў верасні 1996 года ў параўнанні са жніўнем 1996 года індэкс цэн вытворцаў прамысловай прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 102,0 працэнта, у параўнанні са снежнем 1994 года — 257,9 працэнта, са снежнем 1995 года — 120,2 працэнта.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ
## Усебеларускага народнага сходу

Мы, удзельнікі Усебеларускага народнага сходу, усведамляючы велізарную адказнасць за лёс сваёй краіны, звяртаемся да кожнага грамадзяніна, да ўсяго беларускага народа, да органаў дзяржаўнай улады, палітычных партый і грамадскіх рухаў.

У нашым грамадстве вызначыліся два процілеглыя падыходы да вырашэння асноўных задач развіцця беларускай дзяржаўнасці. Адзін з іх нацэлены на стварэнне сацыяльна арыентаванай эканомікі і звязаны з далейшым развіццём дэмакратычных працэсаў і паляпшэннем дабрабыту народа, паглыбленнем інтэграцыі з Расіяй, іншымі краінамі СНД, развіццём адукацыі, навукі і культуры. Гэта — курс Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, які адпавядае інтарэсам шырокіх народных мас.

Другі шлях, на які імкнуцца саштурхнуць наша грамадства апазіцыйныя сілы, зарыентаваны на безуладдзе, хаос, безадказнасць і вяртанне да аджыўшых метадаў кіравання. Мы адмаўляем гэты шлях, які вядзе да зніжэння матэрыяльнага і духоўнага ўзроўню жыцця людзей працы, да самавольства і абагачэння ценявых структур і, у канчатковым выніку, — да аслаблення краіны. Гэта шлях назад!

Мы падтрымліваем палітычны курс кіраўніка дзяржавы, адабраем Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады і перакананы, што іх рэалізацыя забяспечыць эфектыўнае развіццё эканомікі нашай краіны як асновы дабрабыту беларускага народа.

Залогам паспяховага ажыццяўлення Асноўных напрамкаў з'яўляецца палітычная стабільнасць, згода ў грамадстве, адказнасць перад народам усіх без выключэння органаў улады і грамадзян, ад дэпутата да кіраўніка дзяржавы.

У гэтай сітуацыі не могуць быць прызнаны як адпаведныя інтарэсам народа тыя дзеянні Вярхоўнага Савета, якія накіраваны на ўзмацненне канфрантацыі ў палітычным жыцці, на адмову ад пошуку шляхоў кампрамісу і дасягнення агульнанацыянальнай згоды. Адначасова мы салідарныя з тымі дэпутатамі, якія шукаюць гэтыя шляхі і прапануюць канструктыўныя рашэнні.

Стварэнню напружанасці ў грамадстве садзейнічаюць палітычныя заявы Канстытуцыйнага суда і яго кіраўніцтва, якія не адпавядаюць канстытуцыйнаму статусу гэтага органа.

Кіруючыся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, якая вызначае народ адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў краіне, мы, удзельнікі Усебеларускага народнага сходу, якія прадстаўляюць мільёны грамадзян усіх рэгіёнаў рэспублікі, рашуча падтрымліваем ініцыятыву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, што выносяцца на яго.

Мы лічым актуальным вынясенне на рэферэндум пытання аб куплі і продажы зямлі, бо гэта пытанне ў многім прадвызначае будучыню нашай краіны.

Мы перакананы, што ў вырашэнні пытання аб адмене смяротнай кары за вельмі цяжкія злачынствы канчатковае слова павінна быць за народам.

3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў стаў сапраўды сімвалам мужнасці і стойкасці беларускага народа, які адстаяў цаной жыцця лепшых сваіх сыноў і дачок сваю незалежнасць, духоўнасць, культуру, сваю зямлю. Менавіта народ павінен вырашыць, калі адзначаць галоўнае — Свята Рэспублікі.

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па выніках усенароднага абмеркавання праекта змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь улічаны шматлікія прапановы грамадзян, працоўных калектываў, грамадскіх і дзяржаўных органаў і арганізацый рэспублікі. Прыняты асноўныя прапановы па гэтаму праекту і большасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Курс кіраўніка дзяржавы, накіраваны на дасягненне агульнанацыянальнай згоды, пацвярджаецца яго заявай аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года.

Усебеларускі народны сход у сувязі з гэтым прапануе Вярхоўнаму Савету ўнесці змяненні ў свае рашэнні аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму, назначыўшы рэферэндум у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб народным галасаванні (рэферэндуме). Сход звяртаецца да Вярхоўнага Савета з прапановай аб зняцці з рэспубліканскага рэферэндуму пытанняў, якія ініцыіраваны часткай дэпутатаў-камуністаў і аграрыяў, уключаючы ўнесены імі праект змяненняў у Канстытуцыю, які скасоўвае пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а значыць супярэчыць волі народа, які выбраў Прэзідэнта.

Зыходзячы з прапаноў кіраўніка дзяржавы Вярхоўнаму Савету рэкамендуецца ў тэксце праекта рашэння аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, улічыць вынікі ўсенароднага абмеркавання гэтага праекта.

Усебеларускі народны сход прапануе Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Саветам дэпутатаў усіх узроўняў, Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, цэнтральным і мясцовым органам кіравання ажыццявіць неабходныя меры па арганізацыі і правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму.

У гэты гістарычны, лёсаносны для нашай краіны час мы заклікаем рабочых і сялян, інтэлігенцыю і ваеннаслужачых, пенсіянераў і моладзь, усіх, каму дарагі лёс Айчыны, прыняць актыўны ўдзел у рэспубліканскім рэферэндуме. Рэферэндуму быць!

Сход сцвярджае: падтрымка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, прыняцце прапанаваных ім змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон аб'яднае беларускі народ у справе пабудовы дэмакратычнай суверэннай дзяржавы, забеспячэння працвітання нашай краіны — Радзімы цяперашняга і будучых пакаленняў грамадзян рэспублікі.

Заклікаем не толькі тых, хто падтрымлівае палітыку кіраўніка дзяржавы, але і апазіцыю аб'яднаць намаганні для дасягнення згоды ў грамадстве, для паспяховага ажыццяўлення прагрэсіўных пераўтварэнняў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Толькі сам народ мае права вырашыць свой лёс!

**Прынята ўдзельнікамі Усебеларускага народнага сходу ў г. Мінску**

20 кастрычніка 1996 года.

# БЕЛАРУСКАЕ ВЕЧА: ВЫБАР У ІМЯ БУДУЧЫНІ

Першы Усебеларускі народны сход, які адбыўся ў Мінску, па праву можна назваць галоўнай палітычнай падзеяй года. Два дні, 19-20 кастрычніка, працягваўся расшыраны савет Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з пасланцамі народа, якія прадстаўляюць усе рэгіёны краіны і галіны народнай гаспадаркі, сацыяльную і грамадскую сферы рэспублікі, па актуальных праблемах жыцця нашага грамадства, вызначэнню шляхоў далейшага развіцця дзяржавы.

Адзін з галоўных вынікаў гэтай сустрэчы — падтрымка дэлегатамі палітычнага і эканамічнага курсу кіраўніка дзяржавы, якая была выказана ў прынятай сходам рэзалюцыі. Дэлегаты форуму асудзілі дзеянні апазіцыйных сіл парламента, накіраваныя на раскол грамадства і дэстабілізацыю ў краіне, і выказалі надзею на далейшае канструктыўнае супрацоўніцтва ўсіх галін улады.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, адкрываючы сход, сардэчна вітаў яго ўдзельнікаў. «Каму, як не вам, — сказаў ён, — хто глыбока і ўсебакова ведае наша жыццё і праблемы, шукаць і знаходзіць іх вырашэнне». Не ставячы пад сумненне значнасць сістэмы заходняга парламентарызму, Аляксандр Лукашэнка ў той жа час падкрэсліў, што рэалізацыя агульнадэмакратычных каштоўнасцей у кожнай канкрэтнай краіне павінна адпавядаць яе гістарычнаму вопыту і бытавому ўкладу народнага жыцця.

«Для беларусаў гэта перш за ўсё, вялікая традыцыя агульнанароднага веча, на якім спрадвеку вырашаліся самыя складаныя пытанні. Менавіта з мэтай пачуць вашу думку, думку ўсяго народа аб шляхах развіцця рэспублікі і разам прыняць важнейшыя рашэнні, я выступіў ініцыятарам правядзення першага Усебеларускага народнага сходу. Вы прыўнеслі ў гэту залу думкі і меркаванні нашых суграмадзян па ключавых праблемах грамадскага жыцця, іх наказы Прэзідэнту, ураду і Вярхоўнаму Савету. Значыць, нам усім разам шукаць адказы на гэтыя пытанні, вырашаць лёс народа і дзяржавы», — сказаў Прэзідэнт. Пры гэтым ён падкрэсліў, што дэлегатамі выбраны прадстаўнікі розных сацыяльных, прафесіянальных і ўзроставых груп з усіх рэгіёнаў рэспублікі, людзі, якія карыстаюцца заслужанай павагай таварышаў па працы. «Гэта дае магчымасць зрабіць высновы, што першы Усебеларускі народны сход, які сфарміраваны шляхам свабодных дэмакратычных выбараў у працоўных калектывах і прадстаўляе большасць насельніцтва рэспублікі, правамоцны абмеркаваць прапанаваныя дзяржаўныя дакументы і прыняць адпаведнае рашэнне ў інтарэсах народа Беларусі. Яго правядзенне поўнасцю адпавядае духу аднаго з важнейшых палажэнняў нашай Канстытуцыі», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

У першы дзень работы форуму Аляксандр Лукашэнка выступіў з двухгадзінным дакладам «Толькі народ мае права вырашаць свой лёс». Многія чытачы і тэлегледачы праз сродкі масавай інфармацыі паспелі падрабязна пазнаёміцца з выступленнем кіраўніка дзяржавы, якое выклікала шырокі рэзананс у нашым грамадстве і за мяжой. Нагадаем толькі, што галоўныя яго раздзелы склалі важнейшыя блокі праблем: «Улада павінна падпарадкоўвацца толькі волі народа», «Беларуская эканоміка: сучасны стан і напрамкі развіцця», «Сацыяльная абарона і духоўнае адраджэнне народа», «Знешнепалітычная стратэгія Беларусі», «Канстытуцыйная рэформа — шлях у будучыню».

Прэзідэнт прапанаваў дэлегатам выказаць сваю думку па двух важнейшых дакументах, якія вызначаюць далейшы лёс народа і дзяржавы: Асноўных напрамках сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады, а таксама змяненнях і дапаўненнях, прапанаваных Прэзідэнтам (з улікам паправак, што паступілі ў ходзе ўсенароднага абмеркавання) у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка не абышоў сваёй увагай пытанне, якое стала адной з асноўных прычын канфлікту паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам: аб даце рэферэндуму. У адказ на спробы апазіцыйных парламенцкіх колаў «выштурхнуць» кіраўніка дзяржавы за межы прававога поля Аляксандр Лукашэнка заявіў, што дзеля міру і стабільнасці ў грамадстве ён прыняў рашэнне аб правядзенні плебісцыту 24 лістапада і папрасіў дэлегатаў падтрымаць гэту прапанову.

І хоць у першы дзень, згодна з рэгламентам, спрэчак па дакладу не чакалася, усё ж рэакцыя прадстаўнікоў працоўных калектываў на выступленне кіраўніка дзяржавы была відавочнай. Дэлегаты неаднаразова перапынялі апладысментамі выступленне Аляксандра Лукашэнкі. Як мудры крок дзяржаўнага дзеяча ўспрынялі прысутныя рашэнне Прэзідэнта аб пераносе даты выбараў, пазіцыю Прэзідэнта па важнейшых напрамках палітычнага і эканамічнага жыцця краіны, яго шчырую заклапочанасць лёсам людзей і краіны.

Другі дзень работы форуму пачаўся з даклада мандатнай камісіі. Яе старшыня Анатоль Новікаў паведаміў, што ў працоўных калектывах прадпрыемстваў і арганізацый, калгасаў і саўгасаў, навучальных устаноў, у воінскіх часцях і па месцы жыхарства насельніцтва сходы па вылучэнню дэлегатаў прайшлі з поўным захаваннем дэмакратычных прынцыпаў. У іх прынялі ўдзел звыш 2,3 мільёна грамадзян рэспублікі.

(Працяг на 2-й стар)

# БЕЛАРУСКАЕ ВЕЧА: ВЫБАР У ІМЯ БУДУЧЫНІ

(Пачатак на 1-й стар.)

Разам з вылучэннем сваіх прадстаўнікоў удзельнікі сходаў на месцах абмеркавалі і ўнеслі прапановы па праекту змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, выказаўшы адабрэнне курсу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, накіраванага на эканамічную і палітычную стабільнасць беларускай дзяржавы. Усяго на Усебеларускі народны сход выбрана звыш 4740 удзельнікаў. Забяспечана прапарцыянальнае прадстаўніцтва ўсіх раёнаў і гарадоў і найбольш буйных калектываў.

Анатоль Новікаў прывёў такія даныя. Сярод тых, каму народ Беларусі даверыў прымаць жыццёва важныя для нашай дзяржавы рашэнні, 1164 жанчыны, 637 рабочых і калгаснікаў, 554 інжынерна-тэхнічныя работнікі, 720 работнікаў сацыяльна-культурнай сферы, 1064 кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, 1382 чалавекі прадстаўлялі студэнцтва, прадпрымальнікаў, ваеннаслужачых, пенсіянераў і іншыя катэгорыі насельніцтва. Амаль палова ўдзельнікаў — людзі сярэдняга ўзросту — 41,5 працэнта, ад 31 да 40 гадоў — 21,4 працэнта, 50—60-гадовыя — 20,6 працэнта, пенсіянеры — 6,8, моладзь да 30 гадоў — 4,5 працэнта. На сход былі запрошаны былыя кіраўнікі рэспублікі, вялікая група дэпутатаў Вярхоўнага Савета (спікер парламента Сямён Шарэцкі адмовіўся ад удзелу ў форуме), паслы Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі нацыянальных абшчын у Беларусі і беларускіх замежных дыяспар, прадстаўнікі Канстытуцыйнага суда, Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, творчай інтэлігенцыі, Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў вайны, працы, Узброеных сіл і праваахоўных органаў, а таксама вялікая група работнікаў СМІ.

Каля 100 дэлегатаў выказалі жаданне прыняць удзел у абмеркаванні даклада Прэзідэнта. Вядома, што ўлічыць усе просьбы было проста немагчыма, паколькі сход праходзіў у рамках зацверджанага рэгламенту. Тыя, каму не хапіла часу для выступлення на трыбуне, па прапанове Прэзідэнта, змаглі звярнуцца да грамадзян рэспублікі і выказаць сваю думку праз электронныя сродкі інфармацыі.

Першым адкрыў дыскусію генеральны дырэктар гродзенскага аб'яднання «Азот» Валерый Лангоў, які адразу заявіў, што прыбыў на Усебеларускі народны сход з адназначным рашэннем — падтрымаць Прэзідэнта ў яго справах. Ён таксама падкрэсліў, што лічыць правядзенне гэтага народнага форуму і маючага адбыцца рэферэндуму самай дэмакратычнай нормай. Валерый Лангоў адзначыў важнасць палітычнай стабільнасці, канструктыўнага ўзаемадзеяння ўсіх галін улады для дасягнення добрых паказчыкаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. «Я прыхільнік прэзідэнцкай рэспублікі і моцнай улады, якая здольна пераадолець крызісныя з'явы ў нашым грамадстве. Гэта не проста словы — гэта маё перакананне», — сказаў ён. Гаворачы аб будове заканадаўчай улады, Валерый Лангоў адзначыў, што поўнасцю падтрымлівае стварэнне двухпалатнага парламента. Гэта, на яго думку, будзе садзейнічаць удасканаленню заканадаўчай дзейнасці, прыняццю больш якасных заканадаўчых актаў.

Кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір, які выступіў на сходзе, адзначыў, што дакладнае ўсведамленне ўсіх прычын, якія прывялі краіну да зацяжнога крызісу, прадвызначае стратэгію дзяржавы ў цяперашнім і будучым. Ён падкрэсліў, што цяперашняе цяжкае становішча ў эканоміцы — гэта не столькі вынік палітычных падзей, якія адбыліся на рубяжы 90-х гадоў, колькі вынік крызісу эканамічнай сістэмы адміністрацыйнага тыпу, выкліканы адставаннем развіцця прадукцыйных сіл ад сусветнага ўзроўню. Гэта пацверджана практычным вопытам многіх краін. Улічваючы гэты вопыт, адзначыў Міхаіл Чыгір, урад удзяляе вялікую ўвагу рэструктурызацыі вытворчасці і павышэнню эфектыўнасці работы, рэфарміраванню дзяржаўных прадпрыемстваў, што нездавальняюча працуюць, а таксама калгасаў і саўгасаў.

«У гэты лёсаносны перыяд важна стабілізаваць сацыяльна-эканамічную сітуацыю, дакладна вызначыць асноўныя вехі далейшага руху наперад, не дапусціць абвальнага падзення ў эканоміцы. Сёння мы з поўнай адказнасцю можам сказаць, што новаму палітычнаму кіраўніцтву краіны ўдалося спыніць галапіруючую інфляцыю, прытармазіць крызісныя з'явы і забяспечыць у гэтым годзе пакуль што невялікі, але ўсё ж прырост унутранага валавога прадукту, павялічыць вытворчасць важнейшых тавараў, што выпускаюцца ў рэспубліцы», — сказаў кіраўнік урада. Ён паведаміў удзельнікам форуму: вынікі аператыўнага аналізу даюць магчымасць гаварыць аб тым, што задачы развіцця эканомікі ў гэтым годзе па важнейшых пазіцыях будуць выкананы.»Але мы далёкія ад таго, каб з гэтай прычыны ўпадаць у эйфарыю. Становішча ў многіх сферах, у тым ліку і фінансавай, застаецца вельмі складаным. Урад вельмі занепакоены станам разлікаў за энергарэсурсы, і будзе самым настойлівым чынам ажыццяўляць рэжым жорсткай эканоміі»,— падкрэсліў ён.

Аналізуючы праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2000 года, прэм'ер-міністр адзначыў, што работа па яе складанню праходзіла няпроста, бо прапаноўваліся розныя падыходы і ацэнкі далейшага шляху эканамічных пераўтварэнняў. Аднак, лічыць Міхаіл Чыгір, з асноўным зместам гэтай праграмы трэба адназначна згадзіцца. Намечаныя ў ёй стратэгічныя мэты далейшага сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы — гэта павышэнне жыццёвага ўзроўню грамадзян, глыбокія структурныя пераўтварэнні і эканамічны рост. Так, напрыклад, мяркуецца забяспечыць сярэднегадавы прырост валавога ўнутранага прадукту не ніжэй чым 5 працэнтаў, павысіць рэальныя даходы насельніцтва на 4,6 працэнта ў год. Для ажыццяўлення гэтых задач неабходна паслядоўна праводзіць эканамічныя пераўтварэнні, ажыццяўляць глыбокія структурныя змяненні ў народнагаспадарчым комплексе, мабілізаваць як унутраныя, так і знешнія інвестыцыйныя крыніцы, накіроўваючы іх на развіццё вытворчай сферы, стварыць роўныя ўмовы для дзейнасці суб'ектаў гаспадарання розных формаў уласнасці.

«Гэта праграма павінна стаць праграмай выжывання, калі хочаце — праграмай прарыву. Мы не маем права на памылку. Таму на ўсіх нас, удзельнікаў усенароднага сходу, ускладзена адказная місія народных экспертаў, а можа, нават і народных гарантаў», — падкрэсліў Міхаіл Чыгір. Ён нагадаў, што праграма ўжо абмяркоўвалася і атрымала адабрэнне на рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Галоўнае ж, лічыць прэм'ер, трэба скаардынаваць агульныя намаганні ў рэалізацыі намечанага.

На думку кіраўніка ўрада, найбольш прымальнай і адпаведнай сучасным умовам для Беларусі з'яўляецца мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі, якая прадугледжвае ўмелае спалучэнне рыначных адносінаў з эфектыўнай сістэмай абароны грамадзян. Рэалізацыя гэтай праграмы ў многім будзе залежаць ад узаемадзеяння ўсіх узроўняў і галін улады. Вельмі важна забяспечыць спрыяльны і палітычны, і эканамічны клімат. На думку Міхаіла Чыгіра, неабходна ўзмацніць ролю ўрада ў апаратыўным кіраванні эканомікай, а таксама ўдасканаліць структуру і ўзаемадзеянне цэнтральных органаў улады. Прэм'ер са шкадаваннем канстатаваў, што ў дзеючай Канстытуцыі істотна скарочаны паўнамоцтвы і правы ўрада як у кіраванні народнай гаспадаркай, так і ў сферы заканадаўчай ініцыятывы. Таму кіраўнік урада з задавальненнем адзначыў, што ў праекце змяненняў у Канстытуцыю за ўрадам устаноўлена права заканадаўчай ініцыятывы, прадугледжана расшырэнне правоў і адказнасці Кабінета Міністраў. На яго думку, гэта, несумненна, павысіць эфектыўнасць кіравання, паскорыць прыняцце вышэйшай выканаўчай уладай неабходных рашэнняў.

Гаворачы аб вынясенні на плебісцыт пытання аб куплі-продажы зямлі, Міхаіл Чыгір адзначыў, што яно было пастаўлена з улікам менталітэту беларускага народа. У той жа час ён напомніў, што ў ходзе розных дыскусій былі выказаны і іншыя меркаванні. У сувязі з гэтым прэм'ер заявіў, што, на яго думку, можна пайсці на расшырэнне інстытута прыватнай уласнасці на зямлю, не дапускаючы продажу яе для сельскагаспадарчай вытворчасці замежным грамадзянам. Пасрэднікам пры куплі-продажы можа быць дзяржава, якая ў ходзе гэтых працэсаў будзе поўнасцю ўлічваць інтарэсы працуючых на зямлі людзей. «Калі ж грамадзяне краіны не пагодзяцца з такім падыходам, мы застанёмся адзінай краінай у Еўропе і СНД, дзе грамадзянам нельга будзе мець у прыватнай уласнасці больш чым 1 гектар зямлі», — канстатаваў прэм'ер-міністр.

Вялікі рэзананс у прысутных выклікала таксама выступленне дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. Ён падкрэсліў, што за невялікі перыяд удалося сфарміраваць сістэму дзяржаўных органаў і інстытутаў, якія забяспечваюць унутраную і знешнюю бяспеку Беларусі. Віктар Шэйман лічыць, што ў рэспубліцы ёсць усе неабходныя перадумовы для выхаду з эканамічнага крызісу, акрамя аднаго — моцнай эфектыўнай улады. Каб не таптацца на месцы, адзначыў ён, Прэзідэнт вымушаны фарміраваць прававую базу для вырашэння неадкладных праблем уласнымі ўказамі. Гэта адбываецца ва ўмовах, калі замест таго, каб забяспечыць выканаўчую ўладу неабходнай заканадаўчай базай, вось ужо дзесяты месяц большасць Вярхоўнага Савета займаецца ў асноўным толькі тым, што спрабуе даказаць сваю галоўную ролю ў краіне. У палітычную барацьбу, заўважыў Віктар Шэйман, уключаецца і Канстытуцыйны суд.

Канстытуцыйная рэформа, адзначыў ён, вельмі неабходна для вырашэння адной з важнейшых для нас праблем — барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Яшчэ ў снежні 1994 года ў адпаведнасці з указам Прэзідэнта была прадугледжана распрацоўка цэлага шэрага актуальных законаў у гэтай галіне, прадстаўленых у Вярхоўны Савет. Аднак да гэтага часу ні адзін з іх не прыняты. Як паведаміў Віктар Шэйман, толькі ў гэтым годзе органамі МУС па фактах карупцыі было ўзбуджана 599 крымінальных спраў, але органамі пракуратуры было прыцягнута да крымінальнай адказнасці толькі 182. Аналагічная сітуацыя і па справах, што ўзбуджаны ў КДБ. У рэспубліцы няма заканадаўчай базы, якая неабходна для эфектыўнай барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, а існуючае прававое поле не дае магчымасці Прэзідэнту рабіць неабходны ўплыў на заканатворчы працэс. Віктар Шэйман адзначыў важнасць удзелу Прэзідэнта ў дзейнасці судовай улады, што будзе садзейнічаць абмежаванню самавольства іншых галін улады, надзейнай абароне правоў чалавека і грамадзянскага грамадства, ачышчэнню судовага корпуса ад карумпіраваных чыноўнікаў. Гэты падыход, падкрэсліў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі, адпавядае сусветнай практыцы. Заканчваючы сваё выступленне, Віктар Шэйман адзначыў, што навізна і маштабы задач, якія вырашаюцца ў гэты пераходны перыяд, настойліва патрабуюць больш моцнай і эфектыўнай дзяржаўнай улады, якая здольна вывесці рэспубліку з крызісу.

«Калі адкінуць усе палітычныя прыхільнасці, то грамадства ў хуткім часе прыйдзе да разумення неабходнасці змянення нашага Асноўнага закона. Дзеючая Канстытуцыя, значэння якой я не магу прымяншаць, правільна акрэсліла асноўныя контуры беларускай дзяржаўнасці, але абвешчаныя ў ёй прынцыпы дзяржаўнага ладу, палітычнага і эканамічнага жыцця настолькі радыкальныя, што рэалізаваць іх сёння вельмі і вельмі цяжка», — сказаў міністр юстыцыі Валянцін Сукала.

На яго думку, шэраг змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, што прапанаваны Прэзідэнтам, значна павышаюць яе сацыяльную накіраванасць у пераходны перыяд. Тым больш, што і нашы бліжэйшыя суседзі, і партнёры па СНД таксама ідуць па шляху ўдасканалення Канстытуцыі ў сваіх краінах. «Трэба прызнаць, што сумяшчэнне сёння Прэзідэнтам дзвюх функцый — кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады, аб'ектыўна не дазваляе яму выступаць у якасці незалежнага арбітра, забяспечваючы баланс усіх уладаў. У прапанаваных на рэферэндум змяненнях і дапаўненнях вызначаны функцыі Прэзідэнта толькі як кіраўніка дзяржавы, які не прадстаўляе ні адну з галін улады. Гэта нясе прынцыповае змяненне яго паўнамоцтваў як кіраўніка краіны: яны істотна дапаўняюцца», — сказаў міністр.

Валянцін Сукала перакананы, што ўскладанне на Прэзідэнта новых абавязкаў аб'ектыўна і непазбежна патрабуе прадастаўлення яму рэальных механізмаў прававога іх забеспячэння. У гэтым выпадку любы кіраўнік дзяржавы атрымлівае такія паўнамоцтвы, як права распускаць парламент, права прымаць рашэнне аб адстаўцы ўрада, назначаць выбары ў парламент, прымаць удзел у фарміраванні органаў канстытуцыйнага кантролю. Гэтыя паўнамоцтвы традыцыйна дазваляюць кіраўнікам дзяржаў вырашаць на цывілізаваным, канстытуцыйным узроўні натуральныя супярэчнасці, якія непазбежна ўзнікаюць паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі улады. Прычым такія правы Прэзідэнта не абсалютныя, а строга абмежаваны Канстытуцыяй.

«Ініцыіраванне ж Прэзідэнтам рэферэндуму, а таксама змяненні і дапаўненні, унесеныя ім у Асноўны закон краіны, з'яўляюцца канстытуцыйнымі і адпавядаюць міжнародным правілам. Акрамя таго, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам рэспублікі, плебісцыт з'яўляецца важнейшай формай ажыццяўлення народам дзяржаўнай улады. Унясенне змяненняў у Канстытуцыю шляхам усенароднага галасавання толькі павысіць яе легітымнасць, і ў будучым ніхто, акрамя беларускага народа, не будзе мець права карэкціраваць Асноўны закон краіны», — заявіў міністр юстыцыі.

«Мы з вамі з'яўляемся ўдзельнікамі народнага сходу, на парадак дня якога вынесены сапраўды лёсавызначальныя для ўсяго беларускага народа пытанні. Ад іх вырашэння ў многім залежыць будучыня Рэспублікі Беларусь», — сказаў выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што, прымаючы ў свой час дзеючую цяпер Канстытуцыю, дэпутаты мінулага склікання разумелі, што гэта дакумент пераходнага перыяду, які не можа быць даўгавечным. Сёння, сказаў Іван Каратчэня, само жыццё прымушае вярнуцца да перагляду Асноўнага закона.

На яго думку, непрадузяты і спакойны аналіз праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі паказвае, што аб'ектыўна яна будзе садзейнічаць рэалізацыі выбранага рэспублікай курсу. Асобным палітыкам, якія нагнятаюць страсці вакол гэтай падзеі, лічыць Іван Каратчэня, не дае спакою быццам бы празмернае ўзмацненне ўлады Прэзідэнта. Але ж у пераходны перыяд практычна ва ўсіх краінах былога СССР, заўважыў ён, прэзідэнты надзелены выключнымі функцыямі. «Акрамя Малдовы і краін Балтыі, яны ўсюды з'яўляюцца не толькі кіраўнікамі дзяржавы, але і выканаўчай улады. Прэзідэнт жа, згодна з праектам новай рэдакцыі Канстытуцыі, прапануе застацца толькі кіраўніком дзяржавы», — сказаў Іван Каратчэня. Пры гэтым, адзначыў ён, значна пашыраюцца правы і абавязкі ўрада, узмацняецца яго роля як цэнтральнага органа дзяржаўнага кіравання.

Іван Каратчэня не бачыць падстаў для хваляванняў наконт прапанаванага двухпалатнага парламента. Па сутнасці, заўважыў ён, ва ўсіх перадавых краінах свету ён функцыянуе ў такім выглядзе. «Я паграшыў бы супраць ісціны, калі б сказаў, што гэты праект Канстытуцыі — узор дасканаласці. Упэўнены, што нават яго стваральнікі так не думаюць», — адзначыў выканаўчы сакратар Садружнасці. На яго думку, трэба працягваць размову па ўдакладненню яго раздзелаў і артыкулаў. Сама Канстытуцыя, упэўнены Іван Каратчэня, не палепшыць складанай эканамічнай сітуацыі ў краіне, таму таксама важна абмяркоўваць і праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця, якая, на яго думку, прадстаўлена як навукова абгрунтаваны дакумент і заслугоўвае падтрымкі.

У абмеркаванні шляхоў далейшага развіцця краіны актыўны ўдзел прынялі прадстаўнікі самых розных слаёў насельніцтва. Так, напрыклад, старшыня Беларускага прафесарскага сходу Валерый Чардынцаў прапанаваў артыкул 17 праекта Канстытуцыі выкласці дакладна і ясна: дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Удзельнікі форуму адрэагавалі на гэту прапанову апладысментамі, забягаючы наперад, адзначым, што ў заключным слове Прэзідэнт таксама выказаў станоўчыя адносіны да гэтай ініцыятывы.

Падтрымаў праграму эканамічнай стабілізацыі і брыгадзір вытворчага аб'яднання «Мінскпрамбуд» — былы дэпутат Вярхоўнага Савета Леанід Козік. Ён адзначыў, што за гады, якія папярэднічалі ўвядзенню інстытута прэзідэнцтва ў Беларусі, будаўнічая галіна рэспублікі прыйшла ў заняпад. «І мы б яе страцілі, калі б не намаганні Прэзідэнта ў апошнія гады. Ён выдаў шэраг указаў, якія садзейнічаюць станаўленню будіндустрыі. Цяпер справы пайшлі на лад. У людзей з'явілася надзея на атрыманне жылля, у будаўнікоў — работы», — сказаў брыгадзір. На яго думку, для рэалізацыі прапанаванай вышэйшай выканаўчай уладай праграмы патрэбны адпаведныя законы. «Парламент шмат займаўся палітыкай у апошні час, пара яму ўзяцца за заканатворчую дзейнасць. Я за моцную ўладу ў краіне ў асобе Прэзідэнта як гаранта беларускай дзяржаўнасці і стабільнасці ў грамадстве», — заявіў Леанід Козік.

Загадчыца фермы калгаса імя Маякоўскага Валожынскага раёна Яніна Пянткоўская заявіла на сходзе: «Мы цэнім жаданне кіраўніка дзяржавы раіцца з народам. Для сялян рэферэндум важны яшчэ і пастаўленым пытаннем аб уласнасці на зямлю. Лічу, што яна можа быць як прыватнай, так і дзяржаўнай».

Аб неабходнасці моцнай улады, якая бярэ на сябе адказнасць за сучаснае і будучыню дзяржавы, гаварыў старшыня Брэсцкага аблвыканкома Уладзімір Заламай. Ён адзначыў, што хоць рэспубліка і адышла ад эканамічнай бездані, гаварыць аб поспехах яшчэ рана. Шлях да агульнага дабрабыту намечаны ў праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2000 года. Для таго, каб яна была рэалізавана, неабходна даць Прэзідэнту і ўраду пэўныя паўнамоцтвы. Толькі моцная выканаўчая ўлада ў цэнтры і на месцах будзе садзейнічаць яе выкананню ў поўным аб'ёме. «Таму Брэстчына, — сказаў Уладзімір Заламай, — падтрымлівае напрамкі, названыя ў праграме, а таксама ініцыятывы Прэзідэнта па ўдасканаленню дзяржаўнай улады».

Ад імя 85 дэлегатаў-ваенных, якія прысутнічалі на сходзе, выступіў камандзір 38-й брыгады мабільных сіл падпалкоўнік Сяргей Целяпушкін. Ён сказаў, што Узброеныя Сілы, якія яшчэ тры гады таму жылі ва ўмовах няпэўнасці, сёння адчуваюць упэўненасць у заўтрашнім дні. Сваімі дзеяннямі ў падтрымку арміі Прэзідэнт умацаваў воінскі дух у часцях. Нацыянальная армія набыла ўласнае аблічча. Ужо цяпер войскі дэманструюць высокую вывучку і баявую падрыхтоўку, здольныя абараніць рубяжы Радзімы. «Але ўнутраную стабільнасць можа ўмацаваць толькі воля народа, праяўленая ў ходзе маючага адбыцца рэферэндуму», — сказаў дэлегат. Ён падкрэсліў, што ваенныя згодны з прапановай Прэзідэнта і лічаць рэферэндум разумным прававым выйсцем з канстытуцыйнага крызісу.

Герой Савецкага Саюза былы камандзір партызанскага атрада, а цяпер пенсіянер Анатоль Андрэеў ад імя ветэранскіх канферэнцый краіны заклікаў суайчыннікаў аказаць падтрымку ініцыятыве Прэзідэнта па выхаду з канстытуцыйнага крызісу, выступіў з крытыкай у адрас Вярхоўнага Савета за залішнюю палітызацыю. Ветэран заявіў, што сумленныя камуністы адхрышчваюцца ад лідэраў кампартыі, якія сядзяць у парламенце і здрадзілі, на яго думку, інтарэсам народа.

Дэпутат Вярхоўнага Савета дырэктар прадстаўніцтва міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» у Беларусі Іван Пашкевіч, як і многія ўдзельнікі дыскусіі, падтрымаў праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на бліжэйшыя гады. Аднак, на думку дэпутата, для яе выканання неабходна адпаведная прававая база, якой пакуль што няма. Іван Пашкевіч негатыўна ацаніў дзейнасць сваіх калег-дэпутатаў, якія ідуць на канфрантацыю з Прэзідэнтам. Ён прапанаваў шэраг сваіх паправак у Асноўны закон, у тым ліку і аб правядзенні новых выбараў парламента пасля ўступлення ў сілу змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон краіны, якія адобраны ўсенародным галасаваннем. Іван Пашкевіч прапанаваў таксама з ліку пытанняў, што выносяцца на плебісцыт, зняць праект новай Канстытуцыі, што ініцыіраваны фракцыямі камуністаў і аграрыяў.

«Мудрасць беларускага народа дасць магчымасць прыняць разумнае рашэнне», — заявіла Ніна Нядвецкая, дырэктар сярэдняй школы з Ваўкавыска. — Улада ў нас адна — народная, а народ давярае свайму Прэзідэнту».

Аб падтрымцы беларускай моладдзю палітыкі Прэзідэнта, якая накіравана на стабілізацыю і будучы росквіт краіны, гаварыла ў сваім выступленні студэнтка Беларускага дзяржаўнага універсітэта Іна Гулюта.

Ад Праваслаўнай царквы, якая заўсёды разам з народам — і ў радасці, і ў няшчасці, выступіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён падкрэсліў: тысячагадовы вопыт паказаў, што менавіта царква была той маральнай цвярдыняй, на якую апіраліся стаўпы дзяржавы. Уладыка высока ацаніў імкненне Прэзідэнта зрабіць усё неабходнае для духоўнага адраджэння грамадства, якое паступова выходзіць з цяжкага маральнага крызісу.. «Сёння мы маем шчаслівую магчымасць адзіным саборным намаганнем аб'яднаць краіну, каб наладзіць жыццё кожнага чалавека і ўсяго народа.. Думаю, што народ можа выказваць сваю волю рознымі спосабамі, у тым ліку і Усебеларускім народным сходам, бо беларускаму народу здаўна ўласціва саборнасць», — сказаў Уладыка. Ён заклікаў грамадзян краіны выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права, каб вызначыць будучыню дзяржавы.

Як ужо адзначалася, па выніках работы Усебеларускага народнага сходу была прынята рэзалюцыя. У ёй дэлегаты падтрымалі курс кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, накіраваны на стварэнне сацыяльна арыентаванай эканомікі, далейшае развіццё дэмакратычных працэсаў і паляпшэнне дабрабыту народа, паглыбленне інтэграцыі з Расіяй і іншымі краінамі СНД, развіццё адукацыі, навукі, культуры.

Сход адобрыў Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996—2000 год, адзначыўшы, што залогам іх паспяховага ажыццяўлення з'яўляюцца палітычная стабільнасць, згода ў грамадстве, адказнасць перад народам усіх без выключэння органаў улады — ад дэпутата да кіраўніка дзяржавы.

Дэлегаты падтрымалі ініцыятыву Прэзідэнта па правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму і вынесеныя на яго змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю, а таксама іншыя пытанні.

Курс кіраўніка дзяржавы, адзначаецца ў рэзалюцыі, накіраваны на дасягненне агульнанацыянальнай згоды, пацвярджаецца яго заявай аб правядзенні рэферэндуму 24 лістапада 1996 года.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

# БЕЛАРУСКАЕ ВЕЧА: ВЫБАР У ІМЯ БУДУЧЫНІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й і 2-й стар.)**

Усебеларускі народны сход прапанаваў Вярхоўнаму Савету ўнесці змяненні ў сваё рашэнне аб правядзенні плебісцыту, назначыўшы яго ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам «Аб народным галасаванні (рэферэндуме)». Удзельнікі форуму прапанавалі парламенту зняць з рэспубліканскага рэферэндуму пытанні, ініцыіраваныя часткай дэпутатаў, а таксама ўнесены імі праект Канстытуцыі, што ліквідуе пасаду Прэзідэнта, а значыць супярэчыць волі народа, які выбраў кіраўніка дзяржавы.

Звяртаючыся з заключным словам да ўдзельнікаў сходу, Аляксандр Лукашэнка адзначыў: у ходзе дыскусіі прагучала шмат прапаноў, крытычных заўваг і перш за ўсё зваротаў да кіраўніка дзяржавы. «Былі і такія, — сказаў ён, — якія я не магу прыняць. Я маю на ўвазе заявы аб тым, што цяперашні Прэзідэнт павінен стаць ледзь не бацькам нацыі. Я малады для таго, каб стаць нейкім бацькам. Але я буду імкнуцца ўвасабляць і аб'ядноўваць нацыю, таму што гэта мне даверыў народ».

Ён падкрэсліў, што дыскусія мела адкрыты характар, ніхто нікому не забараняў гаварыць тое, што думае. Сведчаннем таго з'яўляецца і заява прэм'ер-міністра аб неабходнасці прыватнай уласнасці на зямлю. Прэзідэнт адзначыў, што ведае аб гэтай пазіцыі Міхаіла Чыгіра даўно. Але ў якасці іншага пункту гледжання Аляксандр Лукашэнка прывёў заяву кіраўніка Акадэміі навук Літвы, які пабываў нядаўна ў Беларусі. «Ваша шчасце, што вы захавалі сваю сельскую гаспадарку,— сказаў ён беларускаму Прэзідэнту. — Ваша шчасце і ў тым, што вы не пачалі прадаваць сваю зямлю. Таму што адбылося б тое, што здарылася ў Літве». «Аб тым жа,— адзначыў Аляксандр Лукашэнка, — мяне папярэджваў і Прэзідэнт Літвы. Тады паўстае пытанне, чаму ж мы сёння павінны спяшацца? У нас ёсць прыватная ўласнасць на зямлю, гэта значыць ёсць не толькі права, але і магчымасць кожнага грамадзяніна прадаць свой прысядзібны або дачны ўчастак, ці купіць. Грамадзяне нашай краіны, як, зрэшты, і замежныя інвестары, могуць набыць зямлю для будаўніцтва ўласнай вытворчасці. Што трэба яшчэ?»

Не адмаўляючы неабходнасці правядзення рэформаў, Прэзідэнт падкрэсліў, што яны не павінны разбураць дасягнутае. «Нам патрэбны пераўтварэнні, накіраваныя на ўдасканаленне ўжо існуючай базы, створанай многімі пакаленнямі нашых людзей. І не толькі беларусамі, а з удзелам усіх народаў Савецкага Саюза. Дык давайце будзем гэта цаніць, берагчы і песціць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт выказаў сваю думку і наконт праекта новай Канстытуцыі, прапанаванага на рэферэндум дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Ён адзначыў, што ў законе аб рэферэндуме сказана дакладна: не можа быць вынесена на плебісцыт новая Канстытуцыя. А менавіта яе прапануюць фракцыі камуністаў і аграрыяў, прапануючы памяняць дзяржаўную будову краіны, знішчыць інстытут прэзідэнцтва.

Аляксандр Лукашэнка прапанаваў дэпутатам, якія прысутнічалі ў зале, каб яны разам з іншымі парламентарыямі пайшлі на кампраміс і знялі сваё пытанне з парадку дня рэферэндуму, як гэта зрабіў Прэзідэнт, згадзіўшыся на прапанаваную Вярхоўным Саветам дату плебісцыту — 24 лістапада.

Ацэньваючы вынікі работы форуму, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што галоўным яго вынікам з'яўляецца падтрымка прадстаўнікамі працоўных калектываў канстытуцыйнай рэформы і сацыяльна-эканамічнай праграмы, унутранага і знешнепалітычнага курсу дзяржавы. Ён выказаў упэўненасць, што гэта пазіцыя знойдзе падтрымку і ў беларускага народа.

Два дні на форуме працаваў «Гарачы тэлефон», па якому мог пазваніць любы жыхар Беларусі, выказаць свае прапановы або заўвагі ў адрас Усебеларускага народнага сходу, кіраўніка дзяржавы, іншых кіраўнікоў рэспублікі. Група аналізу тут жа класіфікавала званкі. А іх за гэты час паступіла з розных куткоў краіны каля пяцісот. Як было заяўлена кіраўніком сакратарыята сходу Уладзімірам Цацохам, усе скаргі, прапановы і пажаданні будуць разгледжаны кампетэнтнымі асобамі і на кожны зарэгістраваны званок будзе дадзены канкрэтны адказ.

**БЕЛТА.**

# У ЗАСЛАЎІ АПАГАНЕНЫ ХРАМ

**Познім вечарам 19 кастрычніка ў Заслаўі загарэлася Спаса-Прэабражэнская царква, каштоўны помнік архітэктуры другой паловы XVI стагоддзя.**

Полымем быў ахоплены ўвесь будынак, і пажарныя, якія прыбылі на месца, былі вымушаны змагацца з агнём нават на вышыні больш чым 36 метраў, дзе размешчана званіца. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы, хутчэй за ўсё, гэта не выпадковае ўзгаранне, а падпал. Відаць, злачынцы праніклі ў памяшканне, разбіўшы аконную шыбу.

На сцяне царквы вандалы пакінулі надпіс «Смерць хрысціянам», а таксама «малюнкі» — перавернутыя крыж і зорку. Як растлумачылі свяшчэннаслужыцелі, гэтыя знакі на мове сатаністаў азначаюць перамогу сіл зла над дабром.

Галоўныя каштоўнасці — іканастас, старадаўнія кнігі і рэчы — былі выратаваны дзякуючы дакладным дзеянням пажарных, якім мясцовыя хрысціяне выказалі сваю ўдзячнасць.

Цяпер супрацоўнікі праваахоўных органаў праводзяць мерапрыемствы, якія дапамогуць узнавіць карціну таго, што здарылася.

**БЕЛТА.**
**Фота Г. ЖЫНКОВА.**





# КАМПРАМІС НЕ АТРЫМАЎСЯ?..

**Усебеларускі народны сход, якому ў мінулыя дні была прысвечана каласальная ўвага, паступова становіцца ўжо фактам айчыннай гісторыі. У людзей розных поглядаў гэта мерапрыемства выклікала розныя пачуцці, і яго значнасць ці нязначнасць вырашыць гісторыя. Тым не менш, падзея ўскалыхнула наша грамадства, асабліва яго палітызаваную частку. Вядома, першых уражанняў, першых каментарыяў чакаць доўга не прыйшлося.**

Прэс-канферэнцыя, якая адбылася 21 кастрычніка ў Вярхоўным Савеце, пакуль адлюстроўвае толькі думкі асобных дэпутатаў — яе ўдзельнікаў. Аднак гэта першая спроба абвергнуць інфармацыю, якая ставілася ў віну парламенту і асобным дэпутатам. Трэба чакаць, рэакцыя ўсяго Вярхоўнага Савета з'явіцца таксама хутка. Такім чынам, на сустрэчу з журналістамі прыйшлі старшыня і сакратар Камісіі па міжнародных справах Пятро Краўчанка і Вольга Абрамава, старшыня Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы Віктар Хоміч і кіраўнік падкамісіі па мясцоваму самакіраванню Мікалай Лазавік, сакратар Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і самакіраванню Тамара Манукова, сакратар Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Валерый Шчукін, экс-спікер Мечаслаў Грыб. Сярод іх толькі Валерый Шчукін прысутнічаў на сходзе, астатнія ж парламентарыі назіралі за падзеямі па тэлебачанню.

Якім жа было здзіўленне дэпутатаў, калі яны пачулі ад Прэзідэнта, што той запрашаў усіх прадстаўнікоў заканадаўчага органа на сход, аднак выбраннікі народа, маўляў, не захацелі быць разам з народам і не прыйшлі ў Палац спорту. Кіруючыся такой навіной, у нядзелю ўдзельнікі прэс-канферэнцыі паспрабавалі трапіць у Палац спорту, аднак іх спадзяванням не наканавана было збыцца. Далей уваходу ў будынак прайсці не ўдалося, паколькі ахова адназначна заявіла, што прапускаць іх забаронена. А. Скрыган, М. Лазавік, В. Хоміч і Т. Манукова вымушаны былі вярнуцца да тэлевізараў. А вось у Пятра Краўчанкі настойлівасці аказалася больш. Яшчэ за некалькі дзён да форуму ён звяртаўся з адпаведнай просьбай да Юрыя Малумава, Міхаіла Чыгіра, Уладзіміра Канаплёва, але ўсё безвынікова. Такімі ж былі і просьбы дэпутата да Віктара Шэймана, Сяргея Посахава, Урала Латыпава, Івана Цінянкова непасрэдна ў дзень правядзення сходу ля ўваходу ў Палац спорту. Дапамагчы Краўчанку ніхто з іх не пажадаў. Далейшыя спробы наогул прывялі да інцыдэнту, ахвярай якога стала здымачная група беларускага бюро РТР, у прыватнасці, яго кіраўнік Леанід Свірыдаў. Калі П. Краўчанка дачакаўся прыезду Прэзідэнта і звярнуўся да кіраўніка дзяржавы з ужо вядомай просьбай, то А. Лукашэнка не заўважыў дэпутата. Гэты «дыялог» палітыкаў і паспрабаваў зафіксаваць аператар РТР, якому служба аховы Прэзідэнта прыгразіла разбіць камеру. У самога ж Л. Свірыдава забралі акрэдытацыйную картку, дэманстратыўна разарвалі яе і кінулі пад ногі.

Т. Манукова абвергла абвінавачанні Прэзідэнта ў той частцы, дзе ідзе размова аб тым, што дэпутаты, маўляў, прынялі закон, паводле якога яны ў 35 гадоў маюць права выходзіць на пенсію і атрымліваць пры гэтым 2,5 млн. рублёў. Яна назвала гэта абсалютнай дэзінфармацыяй, растлумачыўшы, што размова ідзе пра 35-гадовы працоўны стаж, і дадала, што Вярхоўны Савет, наадварот, ліквідаваў ільготы для дэпутатаў, якія былі ўстаноўлены яшчэ папярэднім саставам парламента.

Алена Скрыган паставіла пад сумненне неаднаразовыя выказванні кіраўніка дзяржавы аб тым, што дэлегаты Усебеларускага народнага сходу абраны дэмакратычна і прадстаўляюць усё грамадства. Паводле яе інфармацыі, толькі 2 мільёны 300 тысяч чалавек вылучылі дэлегатаў, а не 7 мільёнаў 400 тысяч беларускіх выбаршчыкаў. Сказанае дэпутат праілюстравала на прыкладзе свайго Капыльскага раёна, дзе налічваюцца 73 працоўныя калектывы, аднак дэлегатаў вылучыў толькі 21. «Таму трэба палажыць канец размовам, што на Усебеларускім сходзе было прадстаўлена ўсё грамадства, — сказала А. Скрыган. — У нас існуе ўжо ўсебеларускі сход, абраны народам на законных падставах, — Вярхоўны Савет. Нельга, каб яго падмянялі нейкім іншым органам».

Валерый Шчукін, які атрымаў запрашэнне на сход, не змог задаволіць сваё жаданне выступіць на ім. Гэта дало дэпутату падставы сцвярджаць, што даклады і дакладчыкі былі вызначаны даўно, і адступленняў ад сцэнарыя не прадугледжвалася. В. Шчукін абверг распаўсюджаную прэс-службай Прэзідэнта інфармацыю, паводле якой на сходзе прысутнічалі 110 дэпутатаў парламента. Па ацэнках камуніста, Вярхоўны Савет прадстаўлялі не больш як 50 чалавек.

Літаральна ўсе ўдзельнікі прэс-канферэнцыі выказвалі неразуменне мэты сходу, паколькі не ўбачылі ніякіх рэальных вынікаў гэтага мерапрыемства, акрамя таго, што грамадства атрымала чарговы віток палітычнага процістаяння, а бюджэт палягчэў мінімум на 10 мільярдаў рублёў.

У нядзелю частка дэпутатаў напісала адкрытае пісьмо Прэзідэнту, дзе выказала яшчэ шэраг іншых думак. Дарэчы, парламентарыі ўздыхнулі з палёгкай, калі Аляксандр Лукашэнка пагадзіўся з датай правядзення рэферэндуму 24 лістапада, але адначасова зазначылі, што не расцэньваюць гэта як кампраміс. Сапраўдным кампрамісам яны лічаць адкліканне абодвух праектаў Канстытуцый і стварэнне пагаджальнай камісіі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### РАСІЯ ПАДПІША ПАГАДНЕННЕ АБ ВАЕННЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З ІНДЫЯЙ

Міністр абароны Расіі Радзівонаў адбыў з трохдзённым візітам у Індыю. У ходзе візіту чакаецца падпісанне пагаднення аб ваенным супрацоўніцтве, якое прадугледжвае абучэнне індыйскіх афіцэраў у расійскіх акадэміях і, магчыма, пастаўкі расійскіх самалётаў у Індыю.

### ВЫБАРЫ ПАВІННЫ ЎЗАКОНІЦЬ ГЕНАЦЫД?

Прэзідэнт Грузіі Шэварднадзе заявіў, што выбары ў Вярхоўны Савет Абхазіі не могуць быць легітымнымі ва ўмовах, калі з рэгіёна выгнаны прыкладна 70 працэнтаў грузінскага насельніцтва. Па словах Шэварднадзе, выбары маюць на мэце ўзаконіць этнічную чыстку і генацыд грузінскага насельніцтва. Раней выбары ў Абхазіі, назначаныя на 23 лістапада, аб'явіў незаконнымі грузінскі парламент.

### З ФРАНЦЫІ ЗНЯТА УРАНАВАЯ БЛАКАДА

Аўстралійскія ўлады адмянілі забарону на пастаўкі урану ў Францыю, якая была ўведзена ў мінулым годзе ў сувязі з французскімі ядзернымі выпрабаваннямі ў паўднёвай частцы Ціхаакіянскага рэгіёна. У канцы студзеня Францыя аб'явіла аб поўным спыненні выпрабаванняў.

### МАРШ НЕ ТОЛЬКІ Ў ПАМЯЦЬ АХВЯР

Ад 200 да 300 тысяч чалавек узялі ўдзел у нядзелю ў Бруселі ў «Белым маршы» — самай грандыёзнай за ўсю пасляваенную гісторыю Бельгіі маніфестацыі. Марш арганізавала асацыяцыя бацькоў, чыіх дзяцей укралі або забілі педафілы або дзяльцы парнабізнесу. Ён стаў не столькі шэсцем у памяць аб нявінных ахвярах разбэшчанасці і нажывы, колькі ясным сігналам недаверу да дзяржаўнай улады.

### ЗША ЗНОЎ УВОДЗЯЦЬ «СУХІ ЗАКОН». ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ ДЛЯ ВАДЗІЦЕЛЯЎ

«Не садзіцеся за руль у нецвярозым стане» — гэты немудрагелісты заклік, які часта гучаў з экранаў амерыканскіх тэлевізараў і ў выступленнях грамадскіх дзеячаў краіны, стаў асноўным пафасам чарговага звароту прэзідэнта ЗША Біла Клінтана да суайчыннікаў. У першую чаргу ён быў адрасаваны маладым амерыканцам — тым, каму яшчэ не споўнілася 21 год. Як паведаміў прэзідэнт, менавіта сярод гэтай катэгорыі насельніцтва ЗША зафіксаваны самы высокі ўзровень дарожна-транспартных здарэнняў з лятальным зыходам па прычыне ўжывання алкаголю. Клінтан заклікаў узмацніць меры па папярэджанню ДТЗ і не дапусціць, каб ужыванне спіртных напояў стала прычынай гібелі людзей на дарогах. Прэзідэнт звярнуўся да ўладаў усіх штатаў з заклікам падтрымаць закон, які прадугледжвае пазбаўленне вадзіцельскага пасведчання амерыканцаў ва ўзросце да 21 года, у арганізме якіх будзе выяўлена наяўнасць любой дозы алкаголю.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Сем гадзін спатрэбілася аўстралійскім актывістам па ахове жывой прыроды і іх добраахвотным памочнікам, каб сцягнуць у воды акіяна выкінутае на бераг дзіцяня кіта. Разам з маці ён заблытаўся ў сеткі агароджы супраць акул, якой акружаны папулярны курорт Аўстраліі. Сетку яны разарвалі, і самка кіта выбралася ў родную стыхію, а знясіленае дзіцяня выкінула на пляж. Працаёмкая выратавальная аперацыя была рызыкоўная: маленькі кіт біў хвастом, як кажуць, не гледзячы.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Ці прыходзіла вам у галаву супаставіць псіхалогію палітыкаў і... злачынцаў з адхіленнямі псіхікі?

Псіхіятр Дэвід Кук з універсітэта шатландскага горада Глазга ў выніку назіранняў і аналізу прыйшоў да высновы, што і тыя, і другія «маюць тэндэнцыю да велічы, ім не знаёмы пакуты сумлення, пачуццё віны. Яны не падтрымліваюць стабільных адносінаў».

Выснова Кука — поўнасцю на яго навуковым сумленні. Дэвіда лічаць адным з вядучых псіхіятраў Вялікабрытаніі.

**ІТАР-ТАСС.**

З заявай на ўласную дачку звярнулася ў Краснагорскі аддзел унутраных спраў жыхарка Каменска-Уральскага. Яна паведаміла, што яе 19-гадовая дачка аддала цыганцы сваё нованароджанае дзіця. Тая, узяўшы з дачкі распіску, што дзіця аддадзена добраахвотна і бясплатна, некуды адвезла дзяўчынку. Як выявілася, маладая маці злоўжывае наркотыкамі і не мае жадання гадаваць дзіця. Дзеючае заканадаўства не прадугледжвае пакарання ніводнаму з бакоў бесчалавечнай здзелкі.

**ЕАН.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

■ У Жлобіне і раёне **выяўлена больш за 40** ВІЧ-інфіцыраваных: у шасці з іх пастаўлены канчатковы дыягназ — СНІД.

■ Сёння ў **месцах пазбаўлення волі** знаходзіцца каля 60 тысяч чалавек.

■ Раней у Беларусі было **5 лікёра-гарэлачных заводаў,** сёння выпускам гэтай прадукцыі заняты 73.

■ За 8 месяцаў **экспарт** рэспублікі павялічыўся на 17,5 працэнта, **імпарт** — на 29,3 працэнта.

■ Для работы на канвееры аўтамабільнага завода кампаніі «Форд» у Абчаку **будуць набраны 150 чалавек**: роўна палову рабочых месцаў зоймуць жанчыны.

■ З замежнымі краінамі наша рэспубліка заключыла **20 інвестыцыйных пагадненняў,** а самай вялікай краінай-інвестарам **з'яўляецца Германія** — больш як 120 мільёнаў долараў ЗША.

■ Сёння на прафілактычным уліку ў рэспубліцы знаходзіцца **3130 падлеткаў,** з якіх 397 нідзе не працуюць і не вучацца, 720 — раней ужо ўступалі ў канфлікт з законам.

■ У Мінску пастаўлены на ўлік за невыкананне сваіх бацькоўскіх абавязкаў **500 чалавек**.

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

# РАЗВЯЗКА БЛІЗІЦЦА

За чатыры туры да фінішу па-ранейшаму не вырашана пытанне наконт чэмпіёнства ў VI чэмпіянаце Беларусі па футболу. Дружным тандэмам з розніцай усяго ў адно ачко ідуць футбалісты мінскага «Дынама» і мазырскага МВКЦ. У чарговым, 26-м туры гэтыя каманды свае матчы выйгралі, прычым на выездзе. Мінчане больш чым упэўнена перайгралі наваполацкі «Нафтан-Дэвон», аб чым сведчыць лік 4:1, а палескія футбалісты дабіліся перамогі над асноўным прэтэндэнтам на бронзавыя медалі — бабруйскай «Белшынай». Пасля фінальнага свістка на табло высвечваліся лічбы 2:1 на карысць гасцей.

У наступным туры, на думку многіх футбольных спецыялістаў, павінна адбыцца кульмінацыя ўсяго чэмпіянату. На мазырскім стадыёне «Юнацтва» 24 кастрычніка скрыжуюць шпагі МВКЦ і «Дынама». Перамога любой з каманд фактычна робіць яе чэмпіёнам, нічыя ж пакідае больш шанцаў мінчанам.

**Вынікі астатніх сустрэч.**

«Абутнік» — «Маладзечна» — 0:1
«Тарпеда» (Мг) — «Днепр» — 2:1
«Дынама» (Бр) — «Лакаматыў-96» — 3:3
«Тарпеда» (Мн) — «Нёман» — 0:0
«Ведрыч» — «Дынама-93» — 0:4
«Шахцёр» — «Атака-Аўра» — 3:2

**Турнірная табліца пасля 26-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 26 | 22 | 3 | 1 | 78-16 | 69 |
| 2. МВКЦ | 26 | 22 | 2 | 2 | 58-14 | 68 |
| 3. Белшына | 26 | 17 | 3 | 6 | 61-29 | 54 |
| 4. Дынама-93 | 25 | 14 | 4 | 7 | 36-26 | 46 |
| 5. Лакаматыў-96 | 26 | 12 | 9 | 5 | 43-23 | 45 |
| 6. Атака-Аўра | 26 | 12 | 5 | 9 | 27-34 | 41 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 26 | 11 | 4 | 11 | 37-46 | 37 |
| 8. Маладзечна | 26 | 10 | 6 | 10 | 38-29 | 36 |
| 9. Днепр | 26 | 10 | 4 | 12 | 29-31 | 34 |
| 10. Дынама(Бр) | 26 | 6 | 11 | 9 | 35-37 | 29 |
| 11. Шахцёр | 26 | 7 | 4 | 15 | 23-43 | 25 |
| 12. Тарпеда (Мг) | 26 | 6 | 5 | 15 | 24-57 | 23 |
| 13. Абутнік | 26 | 5 | 5 | 16 | 22-38 | 20 |
| 14. Нёман | 25 | 4 | 7 | 14 | 20-45 | 19 |
| 15. Тарпеда (Мн) | 26 | 4 | 7 | 15 | 19-50 | 19 |
| 16. Ведрыч | 26 | 4 | 3 | 19 | 14-47 | 15 |

Наступны тур пройдзе 23—24 кастрычніка. Матчы з удзелам лідэраў: МВКЦ — «Дынама» (Мн), «Дынама-93» — «Белшына».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Вольга ДАРГЕЛЬ:

# «СФЕРА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА НЕ ТОЛЬКІ ЗАЙМАЕЦЦА ВЫКАНАННЕМ ДЗЯРЖАЎНЫХ АБАВЯЗКАЎ, АЛЕ І ВЫСТУПАЕ СЁННЯ ГАРАНТАМ СТАБІЛЬНАСЦІ Ў ГРАМАДСТВЕ»

**(Працяг. Пачатак у № 252)**

**— Казачкоўская Ніна Вікенцьеўна. Пражываю ў Мінску па вуліцы Ахоцкай. Я — інвалід II групы. Пенсію атрымліваю ў памеры 335 тысяч рублёў. Мне адмовілі ў дапамозе. Чаму? Таму, што я маю дачку ў Мінску. Дачка працуе настаўніцай пачатковых класаў. Жывём мы па асобку. Кватэру мне далі як перасяленцы з чарнобыльскай зоны і як актыўна хворай на туберкулёз. Крыўдна прызнацца, што адмовілі. Адпрацавала ў калгасе 29 гадоў. Маю медаль як ветэран працы. Без слёз калгасныя гады не ўспамінаю. Працавала цяжка і дарма. Даяркам, вядома ж, нешта плацілі. Не тое што нам, паляводам. Але хіба ўсе маглі ўладкавацца даяркамі?**

— Цудоўна разумеем вас. Думаю, што дапаможам. (Ужо пасля правядзення «прамой лініі» стала вядома, што ў адказ на запыт Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва Заводскі раённы аддзел сацыяльнай абароны прыняў рашэнне аб грашовай дапамозе Ніне Вікенцьеўне ў памеры 265 тысяч рублёў. — **А.К.**).

**— Коўзан Галіна з Лагойскага раёна. Цяжкае жыццё прымусіла мяне звярнуцца да вас. Я сямімесячным дзіцяткам была вывезена ў Германію. Бог даў — выжыла. У 1945 годзе вярнулася на радзіму. Бацькі ў мяне не было. Гадавалася сіратою. З 13 гадоў пайшла працаваць даяркаю. Пенсію зарабіла ў памеры пяцісот тысяч рублёў. Але што гэтыя грошы значаць? Куды ні пайдзі — усюды трэба плаціць тысячы і тысячы. Камбайн каб змалаціў — 60 тысяч. Газету выпісаць — таксама грошы... За зямлю трэба плаціць сто трыццаць тысяч. За паліва — чатырыста тысяч... Якія ж у мяне льготы як у малалетняга вязня? Ветэранам жа ўсяго 50 працэнтаў за святло, за газ трэба плаціць, а мне — поўнасцю...**

— У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах (з улікам змяненняў і дапаўненняў) ільготы па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг прадастаўляюцца непрацуючым былым непаўналетнім вязням фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання пры дасягненні імі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў), а таксама сумесна пражываючым з імі непрацуючым непрацаздольным членам сям'і пры ўмове, калі былыя непаўналетнія вязні пражываюць асобна а працуючых ці непрацуючых у працаздольным узросце членаў сям'і і іншых асоб. Указаныя льготы прадастаўляюцца таксама былым непаўналетнім вязням, якія прызнаны інвалідамі ад агульнага захворвання, працоўнага калецтва ці іншых прычын (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла ў выніку проціпраўных дзеянняў) незалежна ад узросту, факта работы і сумеснага пражывання з дзецьмі і іншымі родзічамі.

Што датычыць пытання аб уплаце зямельнага падатку, то ў адпаведнасці з артыкулам 19 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб плацяжах на зямлю» ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны вызвалены ад уплаты зямельнага падатку, адпаведна і былыя непаўналетнія вязні, паколькі, згодна з артыкулам 21 Закона «Аб ветэранах», льготы, прадугледжаныя заканадаўствам, распаўсюджваюцца і на былых непаўналетніх вязняў. Ільготы, прадугледжаныя гэтым артыкулам, прымяняюцца таксама і ў адносінах для зямельных участкаў, прадастаўленых для будаўніцтва і абслугоўвання індывідуальнага жылога дома, вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, дачнага будаўніцтва, садоўніцтва і агародніцтва.

**— Фіневіч Таццяна Міхайлаўна з вёскі Седча Пухавіцкага раёна. Я — адзінокая маці. Мне 20 гадоў. Закончыла ПТВ № 11, атрымала дыплом. А на працу не ўладкавалася па той прычыне, што не мела мінскай прапіскі. Працавала домработніцай, пасля стала на ўлік па беспрацоўю. Адправілі на вучобу ў Жодзіна. Атрымала прафесію швачкі. Але зноў не знайшла работу. У нашым раёне няма свабодных працоўных месцаў па гэтай спецыяльнасці. 24 красавіка 1996 года ў мяне нарадзілася дачка. Дзіця знаходзіцца на штучным харчаванні. У сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам у жніўні і верасні мне давалі рэцэпты на атрыманне бясплатнага харчавання для дзіцяці. Першы раз грашовую дапамогу з раённага аддзела сацыяльнай абароны я атрымала ў другой палове верасня. І адразу на мясцовым ФАПе мне было адмоўлена ў бясплатным харчаванні для дзіцяці. Фельчар сказала мне, што я, маўляў, атрымала шмат грошай. За пяць месяцаў жыцця маёй дачкі я атрымала 700 тысяч рублёў, разлічылася з даўгамі, а купіць харчаванне для дзіцяці не магу — няма грошай. За гэты час некалькі разоў спрабавала сустрэцца з намеснікам галоўнага ўрача. Але застаць яе ніводнага разу не змагла. Фельчар папрасіла прадставіць даведку аб даходах за мінулы квартал. Я гэта выканала. І мне адказалі, што рэцэпт на харчаванне не выпішуць, бо мае даходы складаюць болей як 50 тысяч рублёў на адну душу. Бясплатным харчаваннем мае права карыстацца той, у каго даход не перавышае гэтую суму... Ужо ў месячным узросце мая дачка захварэла. Пры выпісцы з бальніцы мне рэкамендавалі набыць біфідульбактэрын. Участковы дзіцячы ўрач за 3 наведванні ніводнага разу не выпісала мне рэцэпт на гэтыя лекі. Іх я купляла за свае грошы. Пры апошнім наведванні — 1 кастрычніка — урач накіравала маю дачку ў інфекцыйнае аддзяленне раённай бальніцы. Зараз я знаходжуся з дачкой у бальніцы. Адкажыце, ці могуць мне ў чым дапамагчы мясцовыя службы?**

— Не. Не маюць, на вялікі жаль, такога права па закону. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам права на бясплатнае атрыманне для дзяцей першых двух гадоў жыцця малочных сумесяў і іншых прадуктаў дзіцячага харчавання маюць мнагадзетныя (якія маюць траіх і больш дзяцей) і малазабяспечаныя сем'і (пры сукупным даходзе на члена сям'і не больш як 50 працэнтаў мінімальнай заработнай платы). Паколькі штомесячная дапамога па догляду за дзіцем ва ўзросе да 3 гадоў адзінокай маці з улікам кампенсацыі і індэксацыі склала за ліпень і жнівень па 219.500 рублёў, а з 1 кастрычніка — 275.000 рублёў, даход на члена сям'і значна перавышае ўстаноўлены нарматыў. Разумеем, што вы знаходзіцеся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Раім вам звярнуцца па дапамогу ў выканаўчы камітэт па месцы жыхарства як маламаёмнай сям'і.

**— Яцына Валянціна Пятроўна з Віцебска; мой год нараджэння — 1935-ы. Адкажыце, калі ласка, як павінен налічвацца працоўны стаж за работу ў калгасе ў перыяд з 1949 па 1954 год? Думаю, што падобная сітуацыя ў многіх людзей майго ўзросту... Мяркуйце самі: мы, ужо працаздольная моладзь, працавалі ў калгасе і вучыліся ў сярэдняй школе. Як вядома, у гэты час сярэдняя адукацыя не была абавязковай, за навучанне ў 8—10 класах трэба было плаціць. Мы штогод здавалі па 8—10 экзаменаў, а гадавы мінімум працаднёў тады яшчэ не быў вызначаны. За кожны выхад на працу плацілі ад 0,05 да 0.1 працадня. Як жа вылічыць стаж за выробленыя 149,87 працадня у перыяд з 1949 па 1954 год. Які сацыяльны статус мы мелі тады? Мы ўсе лічыліся калгаснікамі, мы не маглі выехаць з калгаса без дазволу старшыні. Нельга было атрымаць пашпарт без даведкі з калгаса. Толькі атрымаўшы выклік на вучобу ў інстытут, я змагла выехаць з калгаса. У летні час, у пару студэнцкіх канікулаў, я таксама працавала ў калгасе.**

— Паважаная Валянціна Пятроўна! Стаж работы ў калгасе налічваецца зыходзячы з членства ў калгасе. У адпаведнасці з Прыкладным статутам калгаса членамі калгаса могуць быць грамадзяне, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту, прынятыя ў калгас ва ўстаноўленым парадку. Факт прыняцця павінен быць пацверджаны дакументальна. Праца ў калгасе ў перыяд вучобы з 1949 па 1954 год можа быць залічана ў ваш працоўны стаж па фактычнай працягласці па дакументах, выдадзеных праўленнем калгаса.

**— Ніна Антонаўна Рубчэня. Вольга Браніславаўна, я — пенсіянерка з Дзяржынска, у мінулым выхавальніца дзіцячага садзіка. Пытанне ў мяне наступнае. З лістапада 1937 года па пастанове несудовай установы быў расстраляны мой бацька. 4 жніўня 1958 года ён быў пасмяротна рэабілітаваны. Згодна з Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь № 3323 XII ад 18 кастрычніка 1994 года, я, як дачка рэпрэсіраванага і расстралянага, а затым пасмяротна рэабілітаванага бацькі, была прызнана пацярпеўшай ад палітычных рэпрэсій. Маю і пасведчанне на гэты конт. Дарэчы, яно гарантуе правы на атрыманне многіх ільгот, у тым ліку і на лекі. Пасля Указам Прэзідэнта ад 1 верасня 1995 года льготы былі прыпынены. Але ж я прачытала ў газеце «Звязда» за 25 студзеня 1996 года артыкул «Не ўсе льготы адменены, а многія — дзейнічаюць». Якраз пра лекі гаварылася, што льготы па забеспячэнню імі дзейнічаюць. Адказ на пытанне чытачкі, між іншым, даваў намеснік міністра сацыяльнай абароны насельніцтва Пётр Сікорскі. Паверыўшы ва ўсё гэта, я звярнулася ў ваш жа аддзел па месцы жыхарства, дзе і атрымала адказ, што ніякіх ільгот няма. Маўляў, газета — не закон. І параілі звярнуцца ў гарадскую паліклініку, дзе ёсць дакумент, які тлумачыць, што і каму дазволена. Прызнацца, мяне ўсе гэтыя разборкі стамілі. І я працягвала купляць лекі за поўны кошт, нікуды па тлумачэнні не звяртаючыся. Абыходзілася, словам, без ільгот. Здарылася неспадзяванае. У сёлетнім ліпені я перанесла аперацыю ў Мінскай абласной бальніцы, сіл прыметна паменела. А ў дадатак да ўсяго знайшлі гіпертанічную хваробу II ступені. Гэта запатрабавала лекаў, цэны на якія, што называецца, заганяюць у кут — думаю, купляць іх ці неяк абысціся, вытрымаць?! Хваробу не падманеш. Таму і звярнулася да загадчыка паліклінікі. Ён знайшоў палажэнне аб ільготах для пацярпеўшых ад палітычных рэпрэсій, паглядзеў мае дакументы і сказаў, што льготы на лекі мне не паложаны...**

— Паважаная Ніна Антонаўна! Так, сапраўды, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1.09.1995 № 349 было прыпынена дзеянне ў адносінах да ахвяр палітычных рэпрэсій толькі артыкула 11 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах», а пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 чэрвеня 1995 года № 286 быў адменены пункт 1.1 пастановы Савета Міністраў БССР ад 29 снежня 1990 г. № 349, у рэдакцыі пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1992 г. № 775, прадугледжваючы права бясплатнага праезду ў гарадскім транспарце.

Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 26 чэрвеня 1996 г. прыняты Закон «Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах», згодна з якім артыкул 11 Закона «Аб ветэранах» пакінуты ў сіле. Па інфармацыі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ільготы па аплаце жыллёвай плошчы і камунальных паслуг для ахвяр палітычных рэспрэсій дзейнічаюць з моманту прыняцця закона, гэта значыць з 26.06.1996 г.

І ўсе астатнія льготы, прадугледжаныя для ахвяр палітычных рэпрэсій працягваюць дзейнічаць. Так, не страцілі сілы іншыя пункты пастановы Савета Міністраў БССР ад 29 снежня 1990 года № 349 у рэдакцыі пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1992 года № 775. Яна прадугледжвае наступныя льготы: 50-працэнтную скідку з кошту лекаў, а для інвалідаў у выніку працоўнага калецтва і іншых прычын (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла ў выніку проціпраўных дзеянняў) — на бясплатнае набыццё лекаў па рэцэптах лечачых урачоў:

— першачарговае абслугоўванне ў амбулаторна-паліклінічных і аптэкарскіх установах, бясплатны выраб і рамонт зубных пратэзаў (за выключэннем пратэзаў з каштоўных металаў, а таксама металакрылатаў і металакерамікі);

— першаснае забеспячэнне па месцы працы ці месцы атрымання пенсіі (для непрацуючых) пуцёвак у санаторый, прафілакторый і дамы адпачынку;

— першачарговую ўстаноўку тэлефона;

— першачарговае ўступленне ў кааператывы па будаўніцтву і эксплуатацыі адкрытых пляцовак і гаражоў, захоўвання транспартных сродкаў, садаўнічыя таварыствы, на атрыманне беспрацэнтных пазык на індывідуальнае будаўніцтва садовых домікаў і добраўпарадкаванне садовых участкаў;

— выкарыстанне чарговага штогадовага водпуску ў прыдатны час, а таксама на атрыманне дадатковага водпуску без захавання заработнай платы тэрмінам да двух тыдняў у год;

— першачарговае набыццё білетаў на паветраны, чыгуначны, рачны і міжгародні транспарт, на культурна-відовішчныя мерапрыемствы, на першачарговае абслугоўванне і прадастаўленне паслуг у аддзяленнях сувязі, трансагенцтвамі, у атэлье, майстэрнях, прыёмных пунктах і іншых прадпрыемствах бытавога абслугоўвання насельніцтва;

— першачарговы прыём у дамы-інтэрнаты для састарэлых і інвалідаў, пражыванне ў іх на поўным дзяржаўным забеспячэнні;

— штомесячнае забеспячэнне праз сталы заказаў прадуктовымі таварамі.

Акрамя таго, захоўваецца дзеянне пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 3 лістапада 1992 г. № 1906-XII, якая прадугледжвае бясплатную перадачу ва ўласнасць (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) кватэр, займаемых жонкай (мужам) загінуўшага ў месцах пазбаўлення волі.

Ахвяры палітычных рэпрэсій і цяпер карыстаюцца правам на нечарговае атрыманне жылых добраўпарадкаваных памяшканняў у населеных пунктах, дзе яны пражываюць на дзень рэабілітацыі ці, па іх жаданню, у населеных пунктах, дзе яны раней пражывалі на момант рэпрэсій. За імі захавалася права нечарговага ўступлення ў жыллёва-будаўнічыя, жыллёвыя і гаражныя кааператывы, а таксама на нечарговае атрыманне зямельных участкаў пад індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва, заключэнне з падраднымі арганізацыямі дагавораў на будаўніцтва жылых дамоў з надворнымі пабудовамі, набыццё будаўнічых матэрыялаў.

Муж (ці жонка) рэабілатаванага, якія не стварылі новай сям'і, мае права на нечарговае паляпшэнне жыллёвых умоў па месцы пражывання ці, па яго жаданню, у населеным пункце, дзе ён пражываў на момант рэпрэсій.

Захаваліся і прывілеі ў пенсіённым забеспячэнні. Так, у адпаведнасці з артыкулам 51 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» час утрымання пад вартай, час адбывання пакарання ў месцах пазбаўлення волі і высылкі залічваецца ў стаж для прызначэння пенсіі ў трайным памеры. Час знаходжання на спецпасяленні грамадзян, якія дасягнулі 12-гадовага ўзросту, беспадстаўна высланых у перыяд рэпрэсій за межы рэспублікі ў адміністрацыйным парадку, залічваецца ў працоўны стаж у двайным памеры.

Грамадзянам, беспадстаўна рэпрэсіраваным па палітычных матывах у перыяд 20—80-х гадоў і пасля рэабілітаваным, пенсіі павышаюцца на 50 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту (п. «в» артыкула 68 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні»). Варта заўважыць, што гэта прывілея прадугледжана толькі для асоб, у адносінах да якіх былі прыменены рэпрэсіі.

**— Да вас звяртаецца Ларыса Уладзіміраўна Клімянкова з вёскі Ганчары калгаса «Чырвоная зорка» Мастоўскага раёна. Мне адмовілі ў выплаце дапамогі (хаця я — маці-адзіночка) на дзіця (дачка ва ўзросце старэй тры гады), матывуючы гэта тым, што сукупны даход на члена сям'і ў месяц за 1995 год перавышае ўстаноўлены мінімум. Ці правільна гэта?**

— Сапраўды, дапамога сем'ям на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16—18 гадоў прызначаецца ў поўным аб'ёме пры ўмове,што сярэдні сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае 180.000 рублёў, і ў памеры 50 працэнтаў ад устаноўленай дапамогі — пры ўмове, што сярэдні сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае 270.000 рублёў за той год, за які вылічваецца сукупны даход на члена сям'і.

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 360 «Аб павелічэнні памераў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» датычыцца толькі тых сем'яў, якія маюць права на гэту дапамогу.

**— Вас турбуе Алена Стома са Стаўбцоўскага раёна. Такое вось пытанне. У мяне — сын-інвалід. Я знаходжуся дома па догляду за ім. Некалькі папярэдніх месяцаў мы атрымлівалі на дваіх 365.000 рублёў у месяц. За гэты ж месяц атрымалі 282.000 рублёў, на 83.000 менш. Растлумачце, чаму так?**

— У адпаведнасці з артыкулам 73 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» сацыяльныя пенсіі дзецям-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў прызначаюцца ў памеры 1000 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту, г. зн. — 150.000 рублёў.

Да гэтай сумы налічваецца кампенсацыя ў памеры 50.000 рублёў. Сацыяльныя пенсіі, а таксама дапамога па догляду за дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў індэксуюцца ў адпаведнасці з Законам «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі».

Па інфармацыі Мінскага абласнога цэнтра па налічэнню і выплаце пенсіі і дапамог, у жніўні гэтага года (гэтае тлумачэнне было падрыхтавана работнікамі Міністэрства ўжо пасля «прамой лініі». — А.К.) вам было выплачана 156.100 рублёў — дапамога па догляду за дзіцем-інвалідам да 16 гадоў, 209.200 — сацыяльная пенсія на сына-інваліда да 16 гадоў. У верасні вы атрымалі дапамогу па догляду ў памеры 163.000 рублёў, сацыяльную пенсію ў памеры 219.500 рублёў. Памер дапамогі па догляду за дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў з 1 кастрычніка гэтага года складае 300.000 рублёў. У кастрычніку вы атрымаеце 363.000 рублёў — дапамога па догляду, 219.500 рублёў — сацыяльная пенсія.

**(Заканчэнне будзе).**

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў да друку Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НА БЕЛАРУСІ З'ЯВІЛІСЯ ПЕРШЫЯ БАНКАМАТЫ

**На нядаўняй прэзентацыі ў Белзнешэканомбанку было афіцыйна аб'яўлена аб адкрыцці першых у Рэспубліцы Беларусь банкаматаў.**

Значнасць гэтай падзеі цяжка пераацаніць, яна пачынае новы этап развіцця негандлёвага банкаўскага абслугоўвання ў нашай краіне.

Гісторыя ўключэння Белзнешэканомбанка ў міжнародную сістэму безнаяўных разлікаў з дапамогай банкаўскіх картак пачалася ў кастрычніку 1994 года, калі ён увайшоў у гэтую міжнародную асацыяцыю. Вынікам супрацоўніцтва і стала магчымасць для беларускіх і замежных грамадзян атрымліваць наяўную валюту па картках Eurocard/MasterCard у філіялах і аддзяленнях гэтага банка. Што ж уяўляе сабою банкамат? Гэта электронна-механічная прылада, прызначаная для выдачы наяўных грошай трымальнікам банкаўскіх картак. Карткі Eurocard/MasterCard прымаюцца ў 2000 банках і 13 млн. прадпрыемстваў гандлю і сервісу ва ўсім свеце.

Банкаматы і плацежныя тэрміналы прымаюць як унутраныя, так і міжнародныя банкаўскія карткі Eurocard/MasterCard, Eurochegue, Cirrus, cdc, Maestro і ўяўляюць сабою выдатны дадатак да існуючай сеткі абслугоўвання трымальнікаў пластыкавых картак гэтага тыпу.

**Аляксандр КРЫВАНОС. Белпрэсцэнтр.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.49 | 17.59 | 10.10 |
| Віцебск – | 7.42 | 17.46 | 10.04 |
| Магілёў – | 7.39 | 17.48 | 10.09 |
| Гомель – | 7.35 | 17.46 | 10.11 |
| Гродна – | 8.06 | 18.12 | 10.06 |
| Брэст – | 8.01 | 18.18 | 10.17 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 19 кастрычніка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Іакава, Пятра, Ювенціна, Максіма К. Піліпа, Картулі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікі дождж. Тэмпература паветра ў Віцебску, Мінску, Магілёве — 8—10, Гродне, Гомелі — 9—11, Брэсце — 10—12 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 23-га па ўсходу пройдуць невялікія дажджы. Тэмпература ўначы 23-га — мінус 3 — плюс 2, 24-га — 0 — плюс 5, удзень — 9—14 градусаў цяпла.

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 39 (58)


ИНФОРМАЦИОННЫЙ КАТАЛОГ
**ОПТОВАЯ ТОРГОВЛЯ**
# БЕЛАРУСИ

Это профессиональный справочник для руководителей предприятий и фирм, служб маркетинга и сбыта.
Разместив информацию в ежегодном специализированном каталоге "Оптовая торговля Беларуси" ваша фирма продемонстрирует стабильность и солидность перед лицом своих потребителей

**Приглашаем к сотрудничеству рекламные агентства и агентов.**




тел. 262 406, 262 415

**ТОСОЛ-А40М**
Производство ПО «АЗОТ» г. Гродно
Тел./факс: (017) 245-42-40, 245-50-12, 245-78-09.

Тэатр «Вольная сцэна»
24, 25 кастрычніка
прэм'ера
«ЗАЛОЖНІЦА КАХАННЯ»
Пачатак спектакляў у 19 гадзін
Тэл. 234-60-08

## «Пінскдрэў» у чарговы раз пацвярджае высокую рэпутацыю айчынных дрэваапрацоўшчыкаў

**Цэлых пяць дзён у сталічным комплексе «Мінскэкспа» праходзіла выстаўка «Мэбля-97», на якой была прадстаўлена экспазіцыя амаль 30 беларускіх мэблявытворцаў, якія ўваходзяць у канцэрн «Беллеспаперапрам».**

Па выніках выстаўкі мастацкім саветам дрэваапрацоўчай галіны, у які ўвайшлі прэзідэнт канцэрна Леанід Краўцоў, дырэктар выставачнага комплексу, было вызначана, што першае месца прысвойваецца калектыўнаму аб'яднанню «Пінскдрэў».

Дарэчы, для палескіх мэбельшчыкаў такая падзея не стала вялікай навіной, бо ў мінулым годзе на аналагічнай выставе яны таксама былі ў лідэрах. Па словах генеральнага дырэктара калектыўнага аб'яднання "Пінскдрэў" Ларана Арыніча, экспазіцыя прадпрыемства аказалася лепшай сярод іншых па многіх паказчыках. Гэта дызайн, афармленне, якасны састаў мэблі. Але казырнай картай на аб'яднанні заўсёды з'яўляецца мяккая мэбля. І на гэты раз яна была па-за канкурэнцыяй. Такія гарнітуры мяккай мэблі, як «Сімона», «Рубін», «Авацыя», «Анастасія», што з'яўляюцца зусім новымі распрацоўкамі пінскіх майстроў, прыцягнулі вялікую ўвагу наведвальнікаў. Не аказаліся без увагі спальныя гарнітуры, адзежныя шафы і іншая мэбля пінчан з масіўнай драўніны.

Не дзіўна, што за няпоўны тыдзень выстаўкі на плошчах «Пінскдрэва» ў 160 квадратных метрах пабывала не адна тысяча зацікаўленых асоб. І гэта дало свой плён. Літаральна за лічаныя дні «збяднела» прадстаўніцтва «Пінскдрэва» ў Мінску. У фірменным магазіне аб'яднання, які размясціўся ў сталіцы на вуліцы Альшэўскага, 57, была «вымецена» пакупнікамі амаль уся прадукцыя і складскія запасы зменшыліся да мінімуму.

У адзін з дзён выстаўкі на экспазіцыйных плошчах КА «Пінскдрэў» пабываў і кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта РБ Міхаіл Мясніковіч, які высока ацаніў дасягненні пінскіх майстроў у галіне дрэваапрацоўкі і мэблевытворчасці. Міхаіл Уладзіміравіч пацікавіўся ў пераможцаў наконт карысці калектыўнай уласнасці ў параўнанні з той жа дзяржаўнай. Адказ быў канкрэтны: пры калектыўнай уласнасці людзі, якія працуюць на прадпрыемстве, адчуваюць значна большую адказнасць за ўсё, што знаходзіцца побач, і ніколі не дазволяць раскідацца дабром ні сабе, ні іншым.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПРАДАЕЦЦА:

- магнітола «Бярэсце—004» у добрым стане. Стартавая цана 140 $. Тэл. 273-21-48 пасля 15.00. Сяргей.
- драўляны дом з гаспадарчымі пабудовамі ў Вілейскім раёне. Тэл. у Вілейцы 5-36-00.
- дом у г. Добрушы па вул. Інтэрнацыянальнай. Тэл. у г. Добрушы 2-38-24, у г. Лоеве 2-02-53.
- мужчынская дублёнка, імпартная, танна, размер 50—52. Тэл. у Мінску 230-92-39, вечарам.
- чыгунная печка заводскай вытворчасці. Тэл. у Лідзе 2-42-98.
- вагі тарныя. Тэл. у Баранавічах 7-80-41 пасля 17 гадзін.
- новы дом з мансардай, 60 км ад Мінска (без унутраных работ), участак 8 сотак у Івянцы, нядорага. Тэл. (8-293) 34-4-52 вечарам.
- драўляны дом у добрым стане ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобл., ёсць сад, агарод, побач лес. Тэл.: 25-2-76, 26-3-67.
- медыцынскія аднаразовыя шпрыцы (без іголак) германскай вытворчасці (1 шт. — 2000 руб.). Тэл. (8-296) 28-5-73.
- матацыкл «Урал-3» з люлькаю, прабег 30 тыс. км, 1973 г. в. — 100 $. Тэл. (8-296) 28-5-73.
- кватэра 2-пакаёвая ў Мядзелі, нядорага. Тэл. (8-297) 54-8-35.
- вагон-домік 2,5х8 м на колах. Звяртацца ў Івянцы па тэл. 53-0-83.
- аўтамабіль «УАЗ-469В», 1987 г. в., у добрым стане, альбо мяняю на «ВАЗ» ці іншамарку не старэй 1987 г. в. Тэл. (8-272) 58-2-90.
- дом з прысядзібным участкам (нядорага) у в. Кашчэлічы Валожынскага раёна. Звяртацца ў Валожыне: вул. Пушкіна, 47.
- Новы катэдж у трох узроўнях у г. Глыбокае Віцебскай вобл. Тэл. (8-256) 23-3-25.
- аўтамабіль «Урал» 43203 («кунг»), рухавік «КамАЗ» 1991 г. в., прабег 50 тыс. км, цана 7000 $. г. Міёры, тэл. (8-252) 2-28-31.
- аліментнае шчаня масціна (сабака, прывіты, ад імпартаваных бацькоў). Тэл. 277-48-48.
- аўтамабіль «ВАЗ-21063», 1987 г. в., у добрым стане, прабег 120 тыс. км. Тэл. у Барысаве 70-4-12.
- аўтамабіль ГАЗ-24-10 «Волга» 1990 г. в., прабег 70 тыс. км. Тэл. у Калінкавічах 7-24-50 пасля 18.00.
- Часнок зімовы, 1 шт. — 5 тыс. руб. з улікам перасылкі: 231232 Гродзенская вобл., Астравецкі раён, п/а Падольцы. Юковіч І. В.
- самаробны трактар у Глыбоцкім раёне. Тэл. (8-256) 35-33-60.
- паркет, 130 кв. м. Тэл. у Мінску: 276-86-01, 238-94-32.

**ГОМЕЛЬСКИЙ ВАГОНОРЕМОНТНЫЙ ЗАВОД**
**предлагает**

**Продукцию собственного производства:**
- *метизные изделия: болты, винты М3-М6, гайки М3-М8, шайбы диаметром 6 — 42, заклепки;*
- *гвозди строительные;*
- *светильники люминесцентные ЛПО 2х40, ЛПО 2х20*

**Товары народного потребления:**
- *торшеры с галогеновой лампой и регулируемой интенсивностью освещения;*
- *наборы мягкой мебели «БелАм» различной комплектации;*
- *кровати одно-, двуспальные, двухъярусные;*
- *свечи декоративные, ключи универсальные, профилактику для обуви.*

АДРЕС: 246014, г. Гомель, ул. Химакова, 4
ТЕЛ.: (0232) 54-94-25, 52-46-53.
ФАКС: 52-54-20.

## ВІНШУЕМ!

⌘ *Ад усёй душы віншуем нашага класнага кіраўніка **Дануту Станіславаўну Мосевіч** з днём нараджэння.*

Няхай вам лёс радасць надоўга дарue,
На добрых людзей хай заўсёды шанцуе,
Няхай жыццё ваша не стрэне няшчасцяў,
Дай Бог вам надоўга здароўя і шчасця.

**3 павагай — вучні 9 класа.**

⌘ *Любая **Віта!** Віншую цябе з днём нараджэння. Ты, безумоўна, цудоўная і прыгожая. Я кахаю цябе і заўсёды буду кахаць.*

**3 павагай — Федзя М.**, *г. Жодзіна.*

⌘ *Сардэчна віншуем з днём нараджэння любімага ўнука **Ігара Уладзіміравіча Рака** з г. Мінска. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, выдатных поспехаў у вучобе.*

**Дзядуля і бабуля з Любчы.**

⌘ ***Аляксандра і Віталія!** Мы кахаем вас, верым у вас, што колькі год ні пройдзе, мы верым, што вы нас дачакаецеся.*

**Ф. С., г. Жодзіна, в/ч 211300.**

⌘ *Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Івана Пятровіча Бляяўскага**. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, поспехаў у працы, дабрабыту.*

**Жонка, дзеці, унучка Саша,** *в. Залессе.*

⌘ *Віншуем з днём нараджэння **Валянціну Іванаўну Жукоўскую**. Жадаем здароўя, шчасця, каб заўсёды заставалася маладой, вясёлай і шчаслівай.*

**Сям'я Ракаў з Любчы.**

⌘ *Віншуем з днём нараджэння **Вераніку Дашкевіч**. Жадаем яснага сонейка, светлай радасці, шчаслівага жыцця і моцнага здароўя.*

**Сям'я Бабак,** *в. Ужанка.*

## РОЗНАЕ

- разменьваецца 3- пакаёвая кватэра ў Мінску на 2- і 1-пакаёвую, альбо на 1,5- і 1- пакаёвую ў любым раёне горада. **Тэл. 271-49-49.**
- мяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. п. Ружаны Брэсцкай вобл. на Баранавічы ці Шчучын, альбо прадам. **Тэл. у Баранавічах 7-07-00.**
- работу на дом без спецнавыкаў. Вышліце 2 канверты і 1 купон прыватнай аб'явы па адрасу: **223310 Беразіно, п/с 681034.**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 268-28-77.**




Пейджинговую связь редакции обеспечивает компания
**МОБИЛКОМ**
пейджинг-система
**тел. 78-08-98**

**АЎТАРЫТЭТНА**

# НОВЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПРАВІЛЫ БУДУЦЬ САДЗЕЙНІЧАЦЬ БЯСПЕЦЫ ДАРОЖНАГА РУХУ



***Сёння немагчыма ўявіць сабе сучаснае жыццё без аўтамабіля. Штогод колькасць іх расце, але расце, на жаль, і колькасць дарожна-транспартных здарэнняў. А гэта, як правіла, звязана з парушэннямі Правілаў дарожнага руху, недастатковай падрыхтоўкай вадзіцеляў, дрэнным тэхнічным станам аўтатранспартных сродкаў. Забяспечыць бяспеку руху на дарогах — галоўная задача дзяржаўнай аўтаінспекцыі. «Аднак дасягненне гэтай мэты немагчыма без узаемаразумення ўсіх яго ўдзельнікаў», — лічыць першы намеснік начальніка мінскай ДАІ Міхаіл СВІСТУН, які адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.***

**— Вядома, што ў гарадской ДАІ працуе т. зв. тэлефон даверу (229-46-60), па якім можна паведаміць дзяжурнаму аб неправамерных дзеяннях работнікаў дзяржаўтаінспекцыі. Гэта даніна модзе ці ўсё ж наспелая неабходнасць?**

— Тэлефон даверу працуе эфектыўна, яго з'яўленне абумоўлена самім жыццём. Усе званкі абавязкова рэгіструюцца. Па некаторых фактах мы праводзім службовыя расследаванні. Але ў асноўным па тэлефоне даверу вадзіцелі ўзнімаюць пытанні кансультацыйнага, тлумачальнага характару, правамоцнасць прыняцця таго ці іншага рашэння інспектарам міліцыі.

**— Міхаіл Сяргеевіч, як бы вы ацанілі абстаноўку на дарогах, якія парушэнні Правілаў дарожнага руху найбольш характэрныя?**

— Абстаноўка ў цэлым у горадзе стабільная і кіруемая. Падстава для такой заявы ў мяне ёсць: за дзевяць месяцаў зменшылася колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, да трыццаці працэнтаў скарацілася колькасць загінуўшых людзей. Менш зроблена парушэнняў вадзіцелямі ў нецвярозым стане. Найбольш характэрнымі з'яўляюцца наезды на пешаходаў, (пагадзіцеся, не так важна, па чыёй віне). Вадзіцелі таксама часта непаважліва ставяцца да іншых удзельнікаў дарожнага руху. У сваю чаргу на праезных частках дарогі ўсё часцей пачалі з'яўляцца п'яныя пешаходы.

**— Кажуць, ДАІ вельмі жорстка абыходзіцца з парушальнікамі Правілаў дарожнага руху?**

— А як жа інакш — ад нашай работы залежыць парадак на вуліцах. Цяпер, калі ў Мінску каля 320 тысяч аўтамабіляў, а па ўсёй рэспубліцы — больш як за 1,5 млн. адзінак аўтатранспарту, трэба камусьці і ўладу прымяніць. Мы вельмі жорстка патрабуем пропуску пешаходаў ва ўстаноўленых і абазначаных для гэтага месцах, асабліва не даруем свядомага парушэння Правілаў дарожнага руху: праезд на чырвонае святло святлафора, перавышэнне скорасці, кіраванне ў нецвярозым стане. Усё гэта робіцца, пагадзіцеся, не інакш як свядома: гэта не значыць, што чалавек памыліўся, не ведаючы, напрыклад, назвы вуліцы, з-за чаго няправільна перамясціўся на іншую паласу руху.

Мы заўважылі, што апошнім часам у нас вялікі наплыў вадзіцеляў на экспертызу ведаў Правілаў дарожнага руху. Хачу падкрэсліць: супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі і далей будуць прынцыповымі, але карэктнымі і справядлівымі. Каб пазбегнуць на дарогах экстрэмальных сітуацый, усе ўдзельнікі руху павінны быць узаемапаважлівымі, строга ацэньваць свае дзеянні і не дапускаць памылак, якіх не церпіць дарога. Не трэба нічым пагарджаць.

**— Дарэчы, як вядома, правы і абавязкі ў адносінах паміж вадзіцелямі і супрацоўнікамі ДАІ распісаны ва ўсіх даведніках, але цяпер з'явіліся многія іншыя структуры, напрыклад АМОН, якія пры спыненні аўтамабіля адразу патрабуюць дакументы. Ці павінен вадзіцель прад'яўляць ім пасведчанне?**

— Ён абавязаны прад'яўляць вадзіцельскае пасведчанне па патрабаванню любога супрацоўніка міліцыі, як запісана ў Правілах дарожнага руху, якія зацвердзіў наш урад. Калі ўзніклі сумненні, вадзіцель мае права патрабаваць дакументы ў прадстаўніка ў міліцэйскай форме, запісаць яго даныя, а пры неабходнасці і абскардзіць яго дзеянні.

**— Наш чытач Алесь Карповіч цікавіцца, ці дазволена таніроўка шкла аўтамабіля?**

— Таніроўка дазваляецца ў вызначаных межах: святлопрапускная магчымасць бакавога і задняга шкла павінна быць не менш за 75 працэнтаў. Але ёсць, лічу, патрэба змяніць устаноўленыя ДАСТы. У нас шмат аўтамабіляў, якія выконваюць спецзаданні (перавозяць каштоўныя паперы, металы і інш.), або належаць апаратыўным службам, шкло якіх патрабуе абавязковай таніроўкі з мэтай павышэння іх бяспекі. Раней было прынята часовае рашэнне, згодна з якім вадзіцелям такіх аўтамашын выдаваліся талоны (тэрмін іх дзейнасці — да 1 студзеня 1997 года). Гэту праблему трэба вырашыць на пастаяннай аснове.

**— Адкажыце, калі ласка, і на пытанне мінчаніна Сяргея Лукашэвіча, якога хвалюе, па ўсім бачна, праблема платных стаянак, якіх у Мінску вельмі шмат. Каля Камароўскага рынку, стадыёна «Дынама», буйных універмагаў і аўтамагазінаў адна гадзіна паркоўкі аўтамабіля на такой стаянцы каштуе 15 тысяч рублёў. Хто займаецца імі?**

— Гарвыканком і раённыя адміністрацыі. Мы таксама ў свой час давалі прапановы па гэтай праблеме. Па-першае, сусветны вопыт сведчыць, што яна характэрна для буйных гарадоў, і мы імкнёмся вырашаць яе таксама. Справа ў тым, што хутка на мнагалюдных вуліцах сталіцы нельга будзе праехаць з-за неўпарадкаваных стаянак. У новых мікрараёнах гэта праблема вырашаецца проста: каля магазінаў, кінатэатраў абавязкова будуюцца аўтастаянкі.

Па-другое, наяўнасць такіх стаянак аслабляе крымінагенную сітуацыю. Раней, напрыклад, было шмат угонаў аўтамабіляў каля Камароўскага рынку. Цяпер чалавеку, які заплаціў за стаянку грошы, гарантуецца захаванасць яго транспартнага сродку.

Выгадна? Вядома!

**— Тым не менш, угоны ёсць...**

— І будуць, пакуль аўтамабільны рынак будзе найбольш прыбытковым, пакуль уладальнікі машын будуць абыякавымі да іх захаванасці. Усяго ў горадзе за дзевяць месяцаў знойдзена і затрымана толькі супрацоўнікамі дзяржаўтаінспекцыі 318 крадзеных аўтасродкаў.

Гэта міжнародная праблема. Так, сапраўды, мы працуем у адзінай інфармацыйнай прасторы з краінамі СНД і далёкага замежжа, але калі-нікалі інфармацыя аб крадзяжы паступае па лініі Інтэрпола толькі праз два месяцы. У сувязі з тым, што ў сферу гандлю аўтамабілямі ўцягнута шмат людзей, узнікае шмат іншых праблем: падробленая дакументацыя, сертыфікаты, іншыя рэгістрацыйныя дакументы, «перабітыя» нумарныя знакі.

Наспела патрэба цеснага ўзаемадзеяння з органамі мытнага кантролю. У гэтым напрамку мы робім адпаведныя захады, аж да таго, што хутка паспрабуем у якасці эксперымента сумесную работу мытных пунктаў і пунктаў рэгістрацыі: пры растаможванні машыны аглядаць яе будуць разам прадстаўнікі абедзвюх службаў (бывае так, што для мытні няма пытанняў, а для нас ёсць, і яшчэ якія).

Чакаючы ў хуткім часе яшчэ большага наплыву патрыманых машын з Захаду, лічу, што трэба пераглядаць і прававую базу ў адносінах да крадзеных аўтасродкаў: што рабіць, напрыклад, калі перабіты нумарныя знакі, але чалавек пра гэта не ведаў?

**— Дарэчы, ці не вельмі жорсткія меры пакарання прымяняюцца да тых, хто не па сваёй віне, а па волі тых жа хуліганаў пазбавіўся вадзіцельскага пасведчання, іншых дакументаў? Я разумею, калі вадзіцель груба парушае Правілы дарожнага руху, і не раз... Здаецца, у Расіі ўжо вырашылі гэта ў адпаведнасці з сусветнай практыкай: замест згубленага выдаецца новае пасведчанне, але без перздачы экзаменаў.**

— Хачу сказаць адно: калі ў грамадзяніна ёсць дакументы, ён павінен іх берагчы. Ёсць, вядома, розныя выпадкі і іх трэба ўлічваць. У ДАІ часта бываюць такія дні, калі вадзіцелі патокам ідуць з заявамі аб страце сваіх дакументаў. Ці нармальна гэта? Нярэдка выяўляюцца, да таго ж выпадкі, калі вадзіцель мае два, нават тры вадзіцельскія пасведчанні, хоць ім былі прадстаўлены разам з заявай аб страце ўсе даведкі, якія пацвярджаюць гэта. Якімсьці чынам з падобнай практыкай трэба змагацца. Адзін з такіх спосабаў перздача экзаменаў: пры наяўнасці аўтамабіля — перздаецца тэарэтычны экзамен, калі яго няма — і тэарэтычны, і практычны.

**— Міхаіл Сяргеевіч, з 1 верасня дзейнічаюць новыя Правілы дарожнага руху.**

— Адзначу, што гэта новыя нацыянальныя Правілы дарожнага руху. Пры іх распрацоўцы былі прыняты за аснову дзеючыя правілы 1987 года. Пры гэтым улічваліся патрабаванні Міжнароднай канвенцыі па дарожнаму руху і дапаўненняў да яе, а таксама некаторыя палажэнні правілаў руху, якія да гэтага часу прыняты і дзейнічаюць у іншых дзяржавах СНД. Улічваючы імклівае развіццё міжнароднага аўтамабільнага руху, прыняты пад увагу некаторыя асаблівасці правілаў руху ў Германіі, Польшчы, іншых краінах.

**— Наколькі значна яны адрозніваюцца ад старых правілаў?**

— Структура іх практычна супадае. Захаваліся тая ж паслядоўнасць, тыя ж назвы раздзелаў. Асобныя палажэнні, праўда, выдзелены ў самастойныя раздзелы, такія, як «Рух веласіпедыстаў», «Патрабаванні да руху гужавых павозак і прагону жывёлы», «Прымяненне аварыйнай сігналізацыі і знака аварыйнага спынення». Уведзены зусім новы раздзел «Рух у жылых зонах».

**— Чым выклікана з'яўленне новага раздзела?**

— Вы можаце ўявіць дваровую тэрыторыю, па якой вадзіцель-парушальнік нясецца са скорасцю 50—60 кіламетраў у гадзіну? Там жа ёсць дзеці, старыя людзі... Таму ўвядзенне новага знака зусім апраўданае і своечасовае.

**— Што гэта значыць — «жылая зона»?**

— Гэта тэрыторыя, уезды на якую і выезды з якой абазначаны знакамі 5.38 «Жылая зона» і 5.39 «Канец жылой зоны». Тут дазваляецца рух транспартных сродкаў са скорасцю не больш як 20 кіламетраў у гадзіну. Думаю, што чытачам «Звязды» было б мэтазгодна прывесці поўнасцю гэты раздзел:

«18. Рух у жылых зонах

18.1. У жылой зоне рух пешаходаў дазваляецца як па тратуарах, так і па праезнай частцы (па ўсёй шырыні дарогі), прычым пешаходы, маючы перавагу перад транспартнымі сродкамі, не павінны ствараць неабгрунтаваныя перашкоды аўтамабільнаму руху.

18.2. У жылой зоне забараняюцца рух са скорасцю больш за 20 км/гадз, скразны рух, вучэбная язда, стаянка з працуючым рухавіком, а таксама стаянка грузавых аўтамабіляў з дазволенай максімальнай масай больш як 3,5 т па-за спецыяльна выдзеленымі месцамі.

18.3. Пры выездзе з жылой зоны вадзіцелі павінны саступіць дарогу іншым удзельнікам руху (некаторыя канкрэтныя змяненні і дапаўненні публікуюцца).

18.4. Патрабаванні гэтага раздзела распаўсюджваюцца таксама на дваровыя тэрыторыі».

**— Я пазнаёміўся з новымі нацыянальнымі правіламі і магу засведчыць, што яны больш зразумелыя, напісаны больш даходлівай мовай, але многія вадзіцелі яшчэ не паспелі набыць іх. Таму прасіў бы вас, Міхаіл Сяргеевіч, акцэнтаваць увагу на больш-менш значных зменах, новаўвядзеннях, якія з'явіліся ў Правілах дарожнага руху.**

— Добра, калі вы адчулі станоўчыя змяненні ў новых правілах — гэтага і дабіваліся іх распрацоўшчыкі. У канкрэтных раздзелах яны імкнуліся сканцэнтраваць тыя палажэнні, якія адносяцца непасрэдна да іх. Удакладнены таксама асаблівасці дарожнага руху ў Беларусі.

**— Ці можна ўжо гаварыць, што новыя правілы садзейнічаюць павышэнню бяспекі руху?**

— Час пакажа, але мы спадзяёмся на гэта. Думаю, і чытачы нашай паважанай «Звязды» будуць садзейнічаць гэтаму.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

***НЕКАТОРЫЯ КАНКРЭТНЫЯ ЗМЕНЫ І ДАПАЎНЕННІ ЎНЕСЕНЫЯ Ў ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ.***

*Раздзел **«Агульныя абавязкі вадзіцеля»** дапоўнены палажэннямі, якія прадпісваюць ім мець пры сабе, акрамя іншых дакументаў, таксама*

*«ліцэнзію — для транспартных сродкаў прадпрыемстваў, арганізацый і прадпрымальнікаў, перавозная дзейнасць якіх падлягае ліцэнзаванню;*

*дазвол органа сувязі на выкарыстанне сродкаў радыё- і тэлефоннай сувязі пры іх наяўнасці на транспартным сродку (акрамя спецыяльных)».*

***З пункта 3.3.2** Правілаў, які рэгламентуе правілы выкарыстання рамянёў бяспекі, выключаны дазвол не прышпільвацца рамянямі дзецям да дванаццаці гадоў, а таксама вадзіцелям-інвалідам.*

*Яны цяпер, як зразумела, павінны таксама прышпільвацца рамянямі бяспекі.*

*Вадзіцель мае права прадастаўляць транспартны сродак работнікам міліцыі (выключана «дружыннікам і пазаштатным супрацоўнікам міліцыі») і аховы здароўя для адпраўкі ў бліжэйшую лячэбную ўстанову асоб, якія маюць патрэбу (выключана «неадкладную») у медыцынскай дапамозе).*

*У гэты ж раздзел уведзена новае палажэнне: «Вадзіцелю забараняецца... карыстацца сродкамі радыё- і тэлефоннай сувязі ў час руху транспартнага сродку (за выключэннем вадзіцеляў спецыяльных аўтамабіляў)».*

*У раздзеле **«Прыпынак і стаянка»** неабходна адзначыць дапаўненні: «Прыпынак і стаянка забаронены:*

*на газонах і іншых участках з зялёнымі насаджэннямі.*

*Спыненне на час больш як 5 хвілін, звязанае з пасадкай і высадкай пасажыраў ці загрузкай і разгрузкай транспартнага сродку, павінна ажыццяўляцца з непрацуючым рухавіком транспартнага сродку».*

*У раздзеле **«Перавозка людзей»** уведзена вельмі важнае палажэнне: «Перавозка дзяцей у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай і кузаве-фургоне не дазваляецца». Да таго ж «грузавы аўтамабіль з бартавой платформай і кузавам-фургонам, які выкарыстоўваецца для перавозкі людзей, павінен быць абсталяваны сядзеннямі, замацаванымі на вышыні 0,3—0,5 м ад падлогі і не менш як 0,3 м ад верхняга краю борта».*

*Яшчэ пра адно важнае палажэнне павінны ведаць вадзіцелі, асабліва тыя, хто вельмі любіць ліхачыць:*

*«забараняецца эксплуатацыя транспартных сродкаў з антырадарнымі прыборамі».*

*Таксама «забараняецца эксплуатацыя аўтамабіляў, якія разлічаны на левабаковы рух і якія маюць руль з правага боку, акрамя тых, што былі зарэгістраваны ў рэспубліцы Беларусь да ўвядзення правілаў, ці належаць часова прыехаўшым у Беларусь грамадзянам іншых дзяржаў».*

*Як бачыце, зменаў і дапаўненняў шмат. Мы акцэнтавалі увагу на асноўных.*

# ЁСЦЬ ТАКАЯ СЛУЖБА Ў ДАІ

Частай з'явай у жыцці нашага горада сталі звалкі старых аўтамабіляў, кучы смецця ў прыдарожных палосах у прыгарадзе, заезды на тратуары і газоны ў месцах масавага гандлю, дзе груба і наўмысна ігнаруюцца патрабаванні дарожных знакаў і разметкі. І за ўсім гэтым сочыць служба аддзела экалагічнага нагляду ДАІ пры УУС Мінгарвыканкома. У яе абавязкі ўваходзіць не толькі забеспячэнне аховы грамадскага парадку, але і кантроль за выхлапнымі газамі і шумам, ахова і захаванне воднага рэжыму Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, кантроль за гандлем бензінам з перасовачных установак, забеспячэнне выканання правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання аўтазаправачных станцый і рамонтных майстэрняў, папярэджанне несанкцыяніраваных звалак смецця і прамысловых адходаў.



Толькі за апошнія 9 месяцаў гэтага года аддзелам экалагічнага нагляду было спынена больш як 20 тысяч парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, з тэрыторыі горада ўбрана больш за 500 разбітых і паламаных аўтамабіляў. Гэтыя меры спрыяюць не толькі паляпшэнню знешняга выгляду Мінска, але і папаўняюць пазабюджэтны фонд аховы прыроды.

**На здымку:** начальнік аддзела экалагічнага нагляду маёр міліцыі **Ігар Арсеньевіч ВАНІЦКІ** паказвае звалку паламаных аўтамабіляў.

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

*ЗДАРЭННІ*

# ЦІ ВУЧАЦЬ У ШКОЛЕ РАЗБУРАЦЬ ПОМНІКІ?

Як ужо паведамляла «Звязда», нядаўна ў вёсцы Валевачы Чэрвеньскага раёна быў разбураны помнік воінам, якія загінулі пры вызваленні гэтых мясцін у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Вандаламі аказаліся падлеткі. Калі справа трапіла ў міліцыю, усю віну ўзяў на сябе мінскі дзесяцікласнік, які з-за ўзросту не нясе пакуль крымінальнай адказнасці. Свой учынак ён тлумачыць надзвычай проста: «Крануў пліту, яна ўпала і разбілася, крануў другую...»

На бацькоў гэтага дзесяцікласніка і яшчэ аднаго падлетка складзены пратаколы аб невыкананні бацькоўскіх абавязкаў па выхаванню дзяцей, якія накіраваны па месцы жыхарства ў камісію па справах непаўналетніх.

Акрамя таго, бацькі «віноўніка» павінны кампенсаваць страты на аднаўленне разбуранага помніка ў памеры 15 мільёнаў рублёў. Ці не занадта малая цана за апаганьванне святых месцаў і адсутнасць выхавання нашчадкаў?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



## АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ СТРАХАВОЕ ТАВАРЫСТВА «БАГАЧ»:
## *МЫ КЛАПОЦІМСЯ АБ ВАШЫМ ДАБРАБЫЦЕ, СПАКОІ І ЗДАРОЎІ*

***Пётр БАБАРЫКА, генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага страхавога таварыства «Багач»***

# «СТРАХАВАННЕ — ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ СКЛАДАНЫ ФІНАНСАВЫ ІНСТРУМЕНТ, АЛЕ І ШЫРОКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА САПРАЎДНАГА ТВОРЧАГА БІЗНЕСУ».

*Страхаванне і гарантыйнае захаванне маёмасці, нерухомасці, жыцця не з'яўляюцца словамі-сінонімамі. Праўда, у гэтых паняццях шмат агульнага. Адно з падабенстваў: чалавек, які застрахаваўся па аднаму са страхавых полісаў, нават на ўсякі выпадак, упэўнены, што страхавальнік гарантуе яму калі не цэласць маёмасці, дык грашовую кампенсацыю абавязкова.*

*Засвоіўшы, што страхаванне, асабліва ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі, — рэч неабходная, застаецца толькі выбраць сабе фірму, якой можна даверыцца.*

*На рынку страхавых паслуг сёння не адзін дзесятак кампаній і арганізацый, што займаюцца страхавым бізнесам. Але ад гэтага выбару не павінны разбягацца вочы, бо варта ведаць, што хтосьці прыходзіць у страхавы бізнес часова і па розных прычынах праз пэўны час проста перастае існаваць, а хтосьці — надоўга і ўсур'ёз. Да ліку апошніх, можна не сумнявацца, адносіцца і адкрытае акцыянернае страхавое таварыства «Багач». Нягледзячы на невялікі стаж работы (крыху больш як два гады) фірма паспела сябе зарэкамендаваць як надзейны і добрасумленны партнёр, мэта работы якога — несці ў ваш дом багацце, радасць і шчасце.*

*Пра тое, як сёння ААСТ «Багач» удаецца захоўваць імідж дзелавога страхавальніка, якія праблемы хвалююць і пра шмат што іншае — наша размова з яго генеральным дырэктарам Пятром БАБАРЫКАМ.*

**— Пётр Андрэевіч, на двары ўжо глыбокая восень. Людзі ў асноўным сабралі ўраджай. Якраз ёсць нагода пагаварыць пра «Багача».**

— Звычайна пасля заканчэння восеньскіх работ у некаторых рэгіёнах рэспублікі адзначаецца народнае свята «Багач», ад якога і пайшла назва нашага страхавога таварыства.

**— А ўраджай сёлета выдатны, багаты, што, відаць, не магло не адбіцца на рабоце вашага ААСТ.**

— Шчыра скажу, што поспехі ў страхавой справе ў нас ёсць. Праўда, хваліцца не хацелася б, таму што няўстойлівае эканамічнае становішча штодзень адмоўна адбіваецца на нашых людзях і ты дакладна не ведаеш, што з табой будзе заўтра. Аўтарытэт лёгка страціць, а заваёўваць яго прыходзіцца гадамі.



**— Мяркуючы па рэйтынгах Дзяржнагляду, ваша фірма ўваходзіць у пяцёрку лепшых сярод 63 беларускіх страхавых кампаній. Ці значыць гэта, што вы знайшлі сваю нішу на страхавым рынку рэспублікі? Калі так, то ў чым яна заключаецца?**

— Адназначна на гэтае пытанне цяжка адказаць. Мы вельмі стараемся расшырыць дыяпазон аказваемых страхавых паслуг як юрыдычным, так і фізічным асобам. Часам нам зрабіць гэта ўдаецца. Аднак у многіх выпадках гэтыя поспехі меншыя, чым нам хацелася б. Але тое, што ўпартая работа вядзе да поспеху — несумненна. Гэта і пацвярджае рэйтынг Дзяржстрахнагляду.

Зараз мы аказваем людзям, нашым кліентам, 20 відаў паслуг. Чалавек у «Багачы» можа застрахаваць сваё жыццё, пенсію, асабістую і дзяржаўную маёмасць.

**— Думаю, што народ хвалюе пытанне страхавання ў валюце, а не у беларускіх рублях, якія маюць уласцівасць абясцэньвацца.**

— Сапраўды, пытанне гэта даволі важнае. Сёння ў людзей скапілася нямала замежнай СКВ, асабліва долараў. І гэты факт неабходна ўлічваць у страхаванні. Згодна з ліцэнзіяй № 26 Нацыянальнага банка мы можам страхаваць за наяўную валюту здароўе грамадзян, што выязджаюць за мяжу ці ўязджаюць у рэспубліку, грамадзянскую адказнасць уладальнікаў аўтатранспартных сродкаў, якія выязджаюць за межы рэспублікі ці ўязджаюць на яе тэрыторыю па зялёнай і сіняй карце.

**— Забарона страхавання ў замежнай валюце па страхаванню пенсій не вельмі садзейнічае поспеху страхавальнікаў?**

— Вядома. Такая забарона моцна падрывае аб'ёмы страхавання, асабліва ў канверсоўнай валюце, таму што грамадзяне паранейшаму не вераць «мяккаму» нацыянальнаму курсу беларускага рубля.

**— Поспех у любой справе залежыць ад інвестыцыйнай дзейнасці...**

— Нам гэта паняцце добра знаёмае. Як вядома, ва ўсіх развітых краінах свету страхавыя кампаніі з'яўляюцца свайго роду накапляльнікам і асноўным пастаўшчыком доўгатэрміновых капіталаў у інвестыцыйную дзейнасць, паколькі банкаўскія доўгатэрміновыя крэдыты практычна сябе зжылі. Яны з'яўляюцца кіслародам для развіцця асобных галін і эканомікі дзяржаў у цэлым.

Інвестыцыйная дзейнасць, дарэчы, займае значную частку нашай работы і прыносіць нам да 40 працэнтаў даходу. Закон аб страхаванні прадугледжвае размяшчэнне свабодных фінансавых сродкаў на аснове дыверсіфікацыі гэта значыць інвесціравання у розныя галіны эканомікі і накірункі гаспадаркі. Мы гэта робім для таго, каб у цяжкі для эканомікі час не збанкрутаваць, што ў апошні час і адбылося з некаторымі страхавымі кампаніямі і банкамі.

Асноўныя свабодныя фінансавыя сродкі мы ўкладваем ў дэпазіты банка і ў доўгатэрміновыя ўклады, якія накіроўваюцца на фінансаванне розных доўгатэрміновых народнагаспадарчых праектаў. Прычым, калі страхавыя паступленні, скажам, з Брэсцкай вобласці, то інвестыцыйныя ўклады мы стараемся размясціць менавіта ў гэтым рэгіёне.

Упэўнены, што гэта перспектыўны накірунак работы не толькі для «Багача», але і для іншых страхавых кампаній рэспублікі.

**— Работа любой страхавой кампаніі нясе ў сабе выгаду перш за ўсё для тых, хто страхуе сваё жыццё, маёмасць, нерухомасць. Чалавек, атрымаўшы некалькі страхавых полісаў, адчувае сябе за вамі як за каменнай сцяной. А ці задумваліся вы над тым, наколькі надзейна самі застрахаваны? У адзін цудоўны дзень, напрыклад, можа здарыцца так, што большая частка кліентаў «Багача» звернуцца за атрыманнем страхавой кампенсацыі.**

— Дазвольце спачатку крыху закрануць гісторыю нашай справы. Страхаванне — адна з самых старажытных катэгорый грамадскіх адносінаў. Зарадзіўшыся ў перыяд разлажэння першабытнаабшчыннага ладу, яно паступова стала нязменным спадарожнікам грамадскай вытворчасці.

Першапачатковы сэнс разглядаемага пытання звязаны са словам «страх». Уладальнікі маёмасці, уступаючы паміж сабой ў вытворчыя адносіны, адчувалі страх за яго захаванасць, за верагоднасць знішчэння ці страты ў сувязі са стыхійнымі бедствамі, пажарамі, грабяжамі і іншымі непрадбачанымі з'явамі эканамічнага жыцця.

Рызыкоўны характар грамадскай вытворчасці — галоўная прычына занепакоенасці кожнага ўласніка маёмасці і таваравытворцы за свой матэрыяльны дабрабыт. На гэтай глебе заканамерна ўзнікла ідэя кампенсацыі матэрыяльнага ўрону шляхам салідарнай яго раскладкі паміж зацікаўленымі ўладальнікамі маёмасці. Калі б кожны асобна ўзяты ўладальнік паспрабаваў кампенсаваць урон за свой кошт, то ён быў бы вымушаны ствараць матэрыяльныя ці грашовыя рэзервы, роўныя па велічыні кошту сваёй маёмасці, што, вядома ж, нерэальна.

Між тым, жыццёвы вопыт, заснаваны на шматгадовых назіраннях, дазволіў зрабіць выснову аб выпадковым характары наступлення надзвычайных падзей і нераўнамернасці прычын урону. Было заўважана, што колькасць зацікаўленых гаспадарак часта бывае большая, чым колькасць пацярпеўшых ад розных небяспек. Пры такіх умовах салідарная раскладка ўрону паміж зацікаўленымі гаспадаркамі прыметна згладжвае наступствы стыхіі і іншых выпадковасцей. Пры гэтым, чым большая колькасць гаспадарак удзельнічае ў раскладцы ўрону, тым меншая доля сродкаў прыпадае на аднаго ўдзельніка.

Так узнікла страхаванне, сутнасць якога складае салідарная замкнёная раскладка ўрону.

Трэба сказаць, што страхаванне — вельмі складаны фінансавы інструмент. І ў мэтах выканання абавязкаў страхоўшчыка існуе жорсткая сістэма кантролю за плацежаздольнасцю страхоўшчыкаў, памерамі прымаемай адказнасці і забяспечанасцю гэтай адказнасці высокаліквіднымі актывамі страхоўшчыка. За ўсімі гэтымі паказчыкамі вядзецца кантроль Дзяржстрахнагляду Рэспублікі Беларусь. Па ўказаных паказчыках ААСТ «Багач» адпавядае патрабаванням Дзяржстрахнагляду.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ СТРАХАВОЕ ТАВАРЫСТВА «БАГАЧ»:**

***У наш час людзі ўсяму ведаюць цану. Мы прапануем сапраўдную каштоўнасць — страхавы поліс ААСТ «Багач».***

**ААСТ «Багач» прапануе наступныя віды паслуг:**

***1. Страхаванне маёмасці прадпрыемстваў***

***2. Страхаванне хатняй маёмасці грамадзян***

Мэбля, адзенне, дываны, электрабытавыя прыборы, аўдыё-, відэа-, тэлеапаратура і хатнія рэчы, г. зн. прадметы хатняй абстаноўкі і ўжытку, а таксама элементы аддзелкі і абсталявання кватэры лічацца застрахаванымі па заключанаму дагавору.

Не падлягаюць страхаванню ювелірныя вырабы, антыкварныя прадметы, грашовая наяўнасць.

ААСТ «Багач» гарантуе кампенсацыю ўрону ў выпадку знішчэння ці пашкоджання хатняй маёмасці ў выніку пажару, выбуху, паводкі, аварыі ацяпляльнай сістэмы, водаправоднай і каналізацыйнай сетак, крадзяжу і іншых прычын.

***3. Страхаванне маёмасці фермерскіх гаспадарак***

***4. Страхаванне пабудоў, якія належаць грамадзянам***

***5. Страхаванне грузаў***

Па гэтаму віду страхавання заключаюцца дагаворы з юрыдычнымі асобамі — адпраўшчыкамі і атрымальнікамі грузаў.

Застрахаванымі з'яўляюцца грузы, што перавозяцца ўсімі відамі транспарту, на выпадак іх пашкоджання ці знішчэння ў выніку нечаканасцей і небяспекі перавозкі.

Адказнасць страхоўшчыка па дагавору страхавання пачынаецца з моманту пагрузкі грузу ў пункце адпраўлення і прадаўжаецца на працягу ўсёй перавозкі да моманту дастаўкі яго на склад грузаатрымальніка ці ў іншы пункт прызначэння, указаны ў страхавым пасведчанні.

***6. Страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў***

***7. Страхаванне кас***

***8. Страхаванне рызыкі, звязанай з выкарыстаннем пластыкавых і мікрапрацэсарных картак***

***9. Страхаванне ўкладаў і дэпазітаў, вэксаляў і іншых каштоўных папер***

***10. Страхаванне грамадзянскай адказнасці пры ажыццяўленні прафесіянальнай дзейнасці***

***11. Страхаванне жыцця***

***12. Страхаванне пенсіі***

***13. Страхаванне ад няшчасных выпадкаў***

Наша таварыства дапаможа вам часткова ці цалкам кампенсаваць нечаканыя расходы, калі з вамі здарыцца нешта нядобрае.

Дагавор страхавання можа быць заключаны на тэрмін ад аднаго месяца да аднаго года.

Страхавая сума, што выплачваецца ў выніку страхавога выпадку, індэксуецца ў нацыянальнай грашовай адзінцы Рэспублікі Беларусь па адзінаму курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь да долара ЗША.

***14. Страхаванне ад хвароб і няшчасных выпадкаў на час паездкі за мяжу***

***15. Страхаванне спартсменаў ад няшчасных выпадкаў***

***16. Страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў па «зялёнай» і «сіняй карце»***

Страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў, што выязджаюць за мяжу, з'яўляецца абавязковым і дзейнічае на тэрыторыі еўрапейскіх краін, якія падпісалі дагавор «зялёнай» ці «сіняй карты».

У выпадку, калі ўладальнік «карты» становіцца віноўнікам дарожна-транспартнага здарэння, ён прад'яўляе страхавы поліс прадстаўнікам улады ці паліцыі, пацвярджаючы тым самым наяўнасць страхавання. Урэгуляванне прэтэнзій, паступіўшых ад пацярпеўшага боку, будзе ажыццяўляць спецыяльнае бюро ў краіне наведвання. Нанесены вамі ўрон будзе цалкам кампенсаваны страхавой кампаніяй.

Дзеянне страхавання па «сіняй карце» распаўсюджваецца толькі на тэрыторыі краін СНД, Літвы, Латвіі, Польшчы і Венгрыі.

**АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ СТРАХАВОЕ ТАВАРЫСТВА «БАГАЧ»**
**Нашы філіялы і прадстаўніцтвы ёсць у многіх гарадах рэспублікі. Па пытаннях страхавання у ААСТ «Багач» звяртайцеся па наступных адрасах і тэлефонах:**

г. Мінск, вул. Лынькова, д. 19, корп. 1.; Тэл.: (8-017) 250-84-76; 250-84-77, 250-84-78.
г. Брэст, вул. Гогаля, 4/1; Тэл.: (8-0162) 22-21-83, 23-47-67, 22-21-84.
г. Баранавічы, вул. Чарнышэўскага, 11, пакой 2; Тэл. (8-01634) 2-49-68.
г. Кобрын, вул. Савецкая, 23; Тэл. (8-01642) 2-34-21.
г. Пінск, вул. Іркуцка-Пінскай дывізіі, 36, пакой 43; Тэл. (8-01653) 2-55-25.
г. Віцебск, вул. Берасценя, д. 7/63; Тэл.: (8-02122) 4- 97-19, 4-68-67.
г. Глыбокае, пл. 17 верасня, 12. Тэл.: (8-02156) 2-44-98, 2-44-08.
г. Лепель, пл. Свабоды, 2; Тэл. (8-02132) 2-19-94.
г. Орша, вул. Герцэна, 4 «А»; Тэл. (8-02161) 2-24-09.
г. Полацк, вул. Ф. Скарыны, 14, пакой 55; Тэл. (8-02144) 4-63-71.
г. Гомель, вул. Савецкая, 126, пакой 810; Тэл. (8-0232) 57-17-92.
г. Жлобін Тэл. (8-2334) 2-08-34.
г. Калінкавічы Тэл. (8-02345) 2-82-24.
г. Рагачоў Тэл. (8-02339) 2-17-77.
г. Гродна, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 110; Тэл. (8—01522) 2-35-61.
г. Магілёў, зав. 3-і Кастрычніцкі, 9; Тэл.: (8-0222) 22-66-83, 22-16-72.
г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 90; Тэл. (8-02251) 2-27-10.

# «АГРАБУД» — еўрапейская якасць

**Пасля вайны, а затым у часы Хрушчова пры забудове нашых гарадоў мала думалі пра прыгажосць. Архітэктура была прымітыўнай, і афіцыйнай устаноўкай для будаўнікоў было: будаваць многа і хутка. Вядома ж, пры такой пастаноўцы задачы гаварыць пра якасць не прыходзіцца.**

**Баранавічы тут не сталі выключэннем. Цэнтральная вуліца, як і плошча Леніна, — гэта шэраг чатырох- і пяціпавярховых дамоў, за якія і вокам цяжка зачапіцца. Здавалася б, тут цяжка што-небудзь ужо змяніць, каб пазбавіцца гэтай архітэктурнай шэрасці. Але дастаткова было зрабіць рэканструкцыю магазіна па вул. Леніна, як вуліца адразу ж ажыла, пасвятлела. І калі на ёй зрабіць яшчэ некалькі такіх перабудоў першых паверхаў, дык цэнтр горада набудзе зусім іншы — еўрапейскі — выгляд.**

**Рэканструкцыю праводзіла фірма «Аграбуд», якую ўзначальвае Мікалай Кадыка. Як сказаў Мікалай Іванавіч, прадпрыемства інакш і не працуе, толькі на еўрапейскім узроўні.**

**Сваім сакрэтам наконт гэтага і падзяліўся кіраўнік фірмы.**

— А ніякага сакрэту тут няма. Па-першае, мы працуем толькі з імпартнымі матэрыяламі і ўсе работы выконваем імпартнымі інструментамі, на закупку якіх фірма патраціла 24 тыс. нямецкіх марак. Але тут патрэбен комплексны падыход. І ўсё даволі ўзаемазвязана. Напрыклад, у нас абліцовачная плітка выпускаецца ў абмежаваным асартыменце і прадаецца па 4 долары за кв. м, а кіраўнікі прадпрыемстваў скардзяцца, што яе слаба купляюць. А вось імпартную, якая ў два разы даражэй, набываюць з задавальненнем, бо тут вялікі выбар, плітка высокай якасці і амаль не ідзе ў брак, у той час як наша дае амаль 10 працэнтаў адходаў. І наогул, мы страшна адсталі ад Захаду ва ўсім.

Як нас вучылі класці абліцовачную плітку? Размачыў цэментны раствор і на



**Дырэктар «Аграбуда» КАДЫКА Мікалай Іванавіч**

яго прыляпіў плітку, якая праз год і адваліцца. Па заходняй жа тэхналогіі, а менавіта так працуюць рабочыя «Аграбуда», на цэментны слой наносіцца глыбокапранікальная грунтоўка, нівеліруючая сцяжка, зноў грунтоўка і толькі пасля гэтага на клеючы састаў кладзецца плітка. Каб выканаць работу па такой тэхналогіі, неабходна прывезці з Захаду клей, грунтоўку, замазку, плітку, бо ў нас многае не выраблявецца.

Гэта адзін бок справы. А па-другое, нашы спецыялісты пабывалі за мяжой на прамысловых выстаўках, наведалі фірмы, пабачылі, як там працуюць, пазнаёміліся з новымі тэхналогіямі і матэрыяламі. А іх у заходніх фірмаў каласальны выбар. Зыходзячы з гэтага і нашы работнікі спецыялізуюцца ў даволі вузкіх рамках. Адзін займаецца толькі сантэхнікай, другі — вокнамі і дзвярыма, трэці — электрапрыборамі і г. д. Часы спецыялістаў шырокага профілю мінулі.

**— Але ж, Мікалай Іванавіч, пагадзіцеся, што ўсе гэтыя імпартныя матэрыялы палохаюць нашага чалавека цаной.**

— У гэтым выпадку я напомню англійскую прымаўку, якая стала ўжо банальнай: «Я не такі ўжо і багаты, каб купляць таннае». Наша фірма супрацоўнічае з буйнейшай заходняй фірмай «Nobiles», якая выробляе лакі і фарбу. Так, прадукцыя гэтага прадпрыемства дарагая адносна нашай зарплаты, але і тэрмін службы такой фарбы 20 гадоў. А наша, айчынная, колькі вытрымае? Праз пару гадоў фарбуй па-новаму. І так ва ўсім.

**— Як я зразумеў, вы падтрымліваеце кантакты з многімі заходнімі фірмамі. І што, давяраюць?**

— А без даверу дзелавыя адносіны немагчымыя. Нам прыйшлося цэлы год наладжваць кантакты з заходнімі фірмамі, і сёння яны прыйшлі да высновы, што з «Аграбудам» можна мець справу. Прадстаўнікі фірмаў прыязджаюць да нас і бачаць, што мы людзі сур'ёзныя. І як вынік даверу — частка прадукцыі нам пастаўляецца для рэкламы і рэалізацыі бясплатна. Так што давер у камерцыі — важны фактар.

**— Вы думаеце расшыраць сваю дзейнасць, але наколькі гэта рэальна пры сённяшняй эканамічнай нестабільнасці?**

— Безумоўна, ёсць планы і ёсць мары. Адразу хачу адзначыць, што ўся наша дзейнасць развіваецца ў даволі вузкім напрамку. Гэта будаўніцтва і рэалізацыя будматэрыялаў і інструментаў. Хаця было шмат прапаноў, каб зарабіць лёгкія грошы ў сферы «купі-прадай». Я катэгарычна супраць падобнага, мы выбралі сваю нішу і павінны ў ёй замацавацца і працаваць.

«Аграбуд» мае два магазіны ў Баранавічах і адзін у Мінску. Мы заключылі дамову з фірмай «Bosch» і адкрылі спецыялізаваны магазін па продажы інструментаў гэтай сусветна вядомай фірмы.

Але ўсё ж наш «канёк» — будаўнічыя работы, дакладней, аддзелка і рэканструкцыя будынкаў. І ў гэтым плане мы зрабілі крок наперад. Справа ў тым, што раней заказчык павінен быў усю дакументацыю распрацоўваць сам, а падрадчыку заставалася толькі выконваць. Для заказчыка зрабіць гэта было даволі складана. Вось мы і вырашылі ўсю праектна-будаўнічую дакументацыю рыхтаваць самім. Арганізавалі праектны аддзел, і справа пайшла. Але ўсё ж гэта ўчарашні дзень, а да канца гэтага года мы думаем наладзіць вытворчасць пластыкавых вокнаў. У Польшчы дзейнічаюць дзесьці 400 фірмаў, якія выпускаюць гэтую прадукцыю. Мы правялі перамовы з фірмамі Даніі, Германіі і Аўстрыі, якія выпрабляюць пластыкавыя профілі, і спынілі свой выбар на немцах. Вывучылі найбольш прымальную для нас тэхналогію, неўзабаве набудзем абсталяванне і спадзяёмся, што 30—50 вокнаў у змену выпускаць здолеем, а там попыт пакажа, што рабіць.

А што ў нас? Законы не адрэгуляваны, інфляцыя і вялікія пошліны. У нас прывыклі стрыгчы ўсіх пад адзін грабянец. Калі рынак Беларусі не насычаны нейкім таварам, а ў нас ён не выробляецца, то каму гэта перашкаджае? Дык не, пошліны агромністыя. Мы нават увялі мытнага агента, бо цяпер ужо цяжка разабрацца ва ўсіх гэтых мытных нюансах.

**— Мікалай Іванавіч, вы стварылі фірму, можна сказаць на пустым месцы. А сёння «Аграбуд» — акцыянернае таварыства закрытага тыпу, на якім працуюць 330 чалавек. Гэта цяпер, а яшчэ год назад якія страсці разгараліся вакол вас! Нават прыйшлося пакінуць дом і з'ехаць з калгаса, дзе вы працавалі. І прыйшлося шукаць праўду па судах. Якую ж выснову з усяго гэтага вы зрабілі?**

— Зразумеў адно — што б ні рабілася, а ўсё да лепшага. Калі б не ўзнік канфлікт са старшынёй калгаса, то сядзеў бы я ў гэтым калгасе і нічога далей вёскі не бачыў бы. Ды яшчэ за ўвесь час процістаяння я стаў юрыдычна падкаваным чалавекам, суды навучылі многаму.

І яшчэ адно. Я ўпэўнены, што трэба ўмець своечасова адысці ў бок, а то ўсё жыццё ператворыцца ў бяссонныя ночы і душэўныя пакуты. Махнуў я на той дом рукой, праўда, шкада было саду. Перавёз дрэвы на новае месца, частка загінула. Але зараз у мяне ёсць свая справа, з'явілася перспектыва ў жыцці, а гэта галоўнае.

*Пасля размовы Мікалай Іванавіч павёў мяне ў магазін. Тут чыста і светла, тавар акуратна раскладзены па паліцах, вісіць на сценах, стаіць на стэлажах. На свае вочы я ўбачыў усё багацце будаўнічых матэрыялаў. Вось лінолеум для жылых памяшканняў, для прамысловых, для спартыўных залаў, для ванных пакояў... усяго 40 відаў. Пра колер я і не кажу. Такі ж выбар і шпалераў, ваннаў, люстэркаў і г. д. Адным словам, і тут еўрапейскі падыход.*

*Напрыканцы М. Кадыка павёў мяне на тэрыторыю сваёй фірмы і падзяліўся планамі. А яны сапраўды грандыёзныя, бо асноўны акцэнт у іх робіцца на будаўніцтве. Расшыраецца магазін, узводзіцца прамысловае памяшканне, распрацаваны праект гасцініцы, а там трэба будзе прывесці да ладу навакольную тэрыторыю і ўзяцца за будаўніцтва катэджаў. Тыя аб'екты, над якімі працавалі работнікі «Аграбуда», прыцягваюць увагу людзей. Напрыклад, інтэр'ер прафілакторыя Беларускай чыгункі ў Баранавічах не мае сабе роўных сярод аналагічных устаноў Беларусі. Тут пануюць прыгажосць і гармонія.*

*«Аграбуд» заўсёды выканае заказ якасна і ў тэрмін, а ў магазіне фірмы можна набыць разнастайныя будаўнічыя матэрыялы замежнай вытворчасці.*

***Адрас «Аграбуда»: Баранавічы, Слонімская шаша, 14, тэл./факс 8-01634 2-31-49.***

***Магазін — тэл. 8-01634 3-61-24.***

**Матэрыял падрыхтаваў Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА

# НАВІНКІ ВАС ПАРАДУЮЦЬ

**КАЛЕКЦЫІ беларускіх філатэлістаў папоўніліся цікавымі выпускамі рэспубліканскай пошты. Паступілі ў паштовы абарот арыгінальны канверт і паштоўка, прысвечаныя беларускім вучоным.**

Новая аднабаковая паштовая картка з арыгінальнай маркай прысвечана 125-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага этнографа, фалькларыста і археолага І. Сербава. Пасля заканчэння Маскоўскага археалагічнага інстытута Сербаў працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі, у сельскіх школах Беларусі. Займаўся зборам народнага фальклору, вывучаў быт і матэрыяльную культуру беларусаў, арганізаваў серыю экспедыцый на поўдзень Беларусі. Вынікі гэтых экспедыцый былі абагульнены ў шэрагу артыкулаў і кніг, сярод іх «Паездкі па Палессі 1911 і 1912 гг.» У 1922 годзе І. Сербаў быў выбраны правадзейным членам Інбелкульта. Працаваў загадчыкам кафедры этнаграфіі ў Белдзяржуніверсітэце (1922 г.), навуковым супрацоўнікам Акадэміі навук рэспублікі (з 1929 г.). У 1925 вёў археалагічныя раскопкі пад Мінскам і ў іншых месцах рэспублікі.

У 1951 годзе на аснове сабраных Сербавым багатых калекцый беларускага нацыянальнага адзення, узораў народнага мастацтва быў выдадзены альбом беларускага народнага мастацтва. Захавалася каля 450 фатаграфій Сербава, якія адлюстроўваюць жыццё і побыт беларусаў. На паштовай марцы паштоўкі — партрэт вучонага на фоне ўзораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — беларускіх тканых посцілак. На малюнку новай паштоўкі перададзены аб'екты цікавасці вучонага Сербава — тыя ж посцілкі, ручнікі, вышыўкі, дываны, мастацкія тканіны, разьба па дрэве, ганчарныя вырабы — прадметы быту беларускага народа.

Новы канверт з арыгінальнай маркай, што таксама выпушчаны ў паштовы абарот, — першы такога роду паштовы выпуск у практыцы беларускай пошты. Канверт выдадзены да 150-годдзя з дня нараджэння М. Рытава, вядомага беларускага вучонага-агранома, аднаго з заснавальнікаў навуковага агародніцтва і пладаводства. У 1878 годзе М. Рытаў скончыў Маскоўскі універсітэт. У 1879 годзе прыехаў на выкладчыцкую работу ў Горы-Горацкую земляробчую школу. З гэтага часу аж да самай смерці ў 1920 годзе ўся навуковая і грамадская дзейнасць Рытава звязана з гэтай навучальнай установай.

На паштовым знаку канверта — партрэт вучонага на фоне доследнага поля агароднінных культур. На малюнку канверта — галоўны корпус Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці. Гэта адна са старэйшых навучальных устаноў рэспублікі. Горы-Горацкі земляробчы інстытут — першая ў Расіі вышэйшая аграрная навучальная ўстанова. Існаваў у 1840—1864 і 1919—1925 гг. Да 1848 года называўся Горы-Горацкай земляробчай школай. За ўдзел студэнтаў гэтага інстытута ў паўстанні 1863—1864 г.г. навучальная ўстанова была закрыта і пераведзена ў Пецярбург (1864 г.). У Горках засталася земляробчая школа і землямерна-таксатарскія класы, на базе якіх у 1919 годзе адноўлены Гары-Горацкі земляробчы інстытут. У 1925 годзе была створана Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, пазней аб'яднаная з земляробчым інстытутам і Беларускім інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі.

Гэтыя два выпускі пошты рэспублікі прадоўжылі серыю канвертаў і паштовак «Вучоныя Беларусі», распачатую ў 1995 годзе выданнем канверта, прысвечанага акадэміку Г. Багамолаву.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**







## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**22 кастрычніка 1791 года** нарадзіўся Майкл Фарадэй, англійскі фізік, стваральнік вучэння аб электрамагнітным полі, адкрывальнік электрамагнітнай індукцыі, якая стала асновай электратэхнікі, прадбачыў існаванне электрамагнітных хваль, устанавіў законы электролізу.

У гэты дзень у **1811 годзе** нарадзіўся славуты венгерскі кампазітар, піяніст і дырыжор Ферэнц Ліст.

**22 кастрычніка 1844 года** нарадзілася Сара Бернар, вялікая французская актрыса, выканала традыцыйныя і меладраматычныя ролі ў п'есах Гюго, Дзюма-сына, Растана і іншых.

**22 кастрычніка 1870 года** з'явіўся на свет Іван Бунін, рускі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1933 года.

**22 кастрычніка 1887 года** нарадзіўся амерыканскі пісьменнік і журналіст Джон Рыд, адзін з арганізатараў кампартыі ЗША. У гады першай сусветнай вайны — ваенны карэспандэнт у Еўропе, аўтар кнігі «10 дзён, якія ўзрушылі свет».

У гэты дзень **у 1929 годзе** нарадзіўся славуты савецкі футбаліст, варатар зборнай СССР і маскоўскага «Дынама» Леў Іванавіч Яшын, неаднаразовы чэмпіён ССР, Алімпійскіх гульняў (1956) і Еўропы (1960).

У гэты ж дзень у **1933 годзе** нарадзіўся Ігар Дабралюбаў, вядомы беларускі рэжысёр.

І нарэшце, **22 кастрычніка 1978 года** адбылася каранацыя Яго Свяцейшаства Папы рымскага Яна Паўла II.

### Цікава

***Мужчынам невысокага росту насіць бараду не рэкамендуецца, а калі гэта неабходна для таго, каб схаваць касметычны дэфект твару, яна павінна быць кароткай.***

**Высокім мужчынам** больш падыходзіць шырокая барада — яна зрокава павялічвае твар, робячы фігуру больш прапарцыянальнай.

**Барада ў брунетаў** павінна быць менш аб'ёмнай, чым у бландзінаў. Тым, у каго валасы вельмі светлыя, лепш адпусціць шырокую бараду.

Каб **круглы твар** казаўся выцягнутым і не такім поўным, барада павінна мець форму трапецыі ці кліна, а вусы — накіраваны канцамі ўніз. Пры **выцягнутай ці трохвугольнай форме** твару лепш, калі барада будзе акруглай ці квадратнай. Калі выступаюць сківіцы, барада можа быць поўнай, закрываць падбародак і шчокі, ці ў выглядзе вузкай палоскі на сківіцах.

### Неверагоднае, загадкавае

***Калі Салі Валбэні тэлефануе сваім сябрам ці знаёмым і кажа, што збіраецца іх наведаць, тыя пачынаюць паспешліва выключаць усе хатнія электрапрыборы. Каб пазбегнуць непрыемных нечаканасцей.***

У горадзе ўжо вядома, што гэтая 36-гадовая англійская хатняя гаспадыня — сапраўдны электрычны монстр. Варта ёй падысці да працуючых пральнай машыны, тэлевізара, пыласоса, як тэхніка пачынае барахліць, а то і гарэць.

— Гэта пачалося гадоў дзесяць назад, — расказвае «электрычная лэдзі». — Спачатку ў мяне прама ў руках згарэў фен, затым задыміў і заглух пыласос. А на другі дзень літаральна ўзарваўся рухавік пральнай машыны. З таго часу муж не дапускае мяне да бытавой тэхнікі: сам мые, сам прыбірае кватэру. Да тэлевізара, асабліва калі ідзе футбол, мне таксама падыходзіць забараняецца, бо адлюстраванне адразу скажаецца, самі пачынаюць пераключацца каналы.

Спецыялісты факультэта эксперыментальнай фізікі Сальфардскага універсітэта ў Манчэстэры, якія вывучалі унікальныя здольнасці жанчыны, прыйшлі да высновы, што міс Валбэні — жывы кандэнсатар. Па нейкіх незразумелых прычынах цела Салі здольнае ўбіраць электрычныя зарады з атмасферы, накопліваць іх, а пасля разраджацца на электрапрыборы.

### Аднойчы быў выпадак

***Сталін неяк праязджаў па Маскве міма царквы Спаса, шэдэўра XV стагоддзя. Побач з царквой ляжала куча дроў.***

— Убраць, — коратка буркнуў Сталін.

Перапытваць, што менавіта ўбраць, ніхто не асмеліўся, таму дровы звезлі, а царкву знеслі.

### Анекдот

*На «залатым» вяселлі.*

*— Ведаеш, дарагая, наш шлюб, у сутнасці, — вынік памылкі.*

*— Як?! — успыхвае жонка.*

*— Так, уяві сабе. Тады я свіснуў толькі для таго, каб спыніць таксі...*

### ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «САМАВОЛКА» ДАЎЖЫНЁЙ У ЧАТЫРЫ ГАДЫ

**Своеасаблівы рэкорд, варты занясення ў кнігу Гінеса, паставіў радавы беларускай арміі Ігар Наздрачоў. Ён пакінуў часць і быў ва ўцёках больш як чатыры гады.**

Гісторыя наогул банальная, няма ў ёй ні інтрыгі, ні дэтэктыўных паваротаў. Але для маладых людзей, якія па розных прычынах ухіляюцца ад службы ў арміі, павінна быць павучальнай.

У снежні 1991 года Ігар Наздрачоў надзеў салдацкія пагоны. А ўжо праз два месяцы значыўся ў пошуку. Адправіўся ў звальненне і бясследна знік. У жніўні 1992 года салдата затрымалі, даставілі ў часць, у санчасці падлячылі.

Але ў роту Ігар зноў не вярнуўся. Яго аднагодкі ўжо адслужылі і звольніліся, пачалі вучыцца ці працаваць, вызначыліся ў далейшым жыцці. А гора-абаронца? Як потым аказалася, ён доўгі час жыў у Расіі ў сваякоў. Паспеў ажаніцца, нарадзілася дзіця. Працаваў у розных арганізацыях, гандляваў на рынку. Але, як гаворыцца, колькі вяровачцы не віцца... Калі Наздрачоў прыехаў у Бабруйск да маці, яго затрымала міліцыя. На двары верасень 1996 года.

Сёння ў ваеннай камендатуры салдат чакае вырашэння свайго лёсу. Пасля завяршэння следства адбудзецца суд, які і расставіць усе кропкі над «і». Ігар, па яго словах, цалкам усвядоміў сваю віну, вярнуць бы час назад, вядома, не рабіў бы падобнага глупства. Перажывае за хворую маці, за жонку з дзіцем, якім патрэбна дапамога.

А мог жа нармальна адслужыць, звольніцца разам са сваім прызывам, вучыцца, працаваць, займацца сям'ёй, дапамагаць маці. Але, на жаль, цяпер лёс салдата будзе вырашаць не ён сам, а суд.

Шкада, што некаторыя маладыя людзі наіўна мяркуюць, быццам можна парушыць закон і пазбегнуць адказнасці. Рана ці позна давядзецца плаціць за неабдуманыя ўчынкі. Прыклад радавога Наздрачова — нагляднае таму пацвярджэнне.

Сёння, паводле даных Галоўнай ваеннай камендатуры, у пошуку знаходзіцца каля 30 ваеннаслужачых. Яшчэ некалькі гадоў назад уцекачоў было ў некалькі разоў больш. Сёння прэстыж ваеннай службы значна павысіўся, так званыя «ўкланісты» ўсё радзей сустракаюцца сярод моладзі.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 22 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Абібок. **8.45** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **9.00** Тэлебачанне — школе. Мая радзіма — Беларусь. 4-ы клас. «Чырвоная кніга» Беларусі. **9.20** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял (Іспанія). Заключная серыя. **10.20** «У стылі джаз-рэтра». Фільм-канцэрт. **10.40** «Скарбніца мудрасці». Мультфільм. **11.05** «Поезд са станцыі дзяцінства». Маст. фільм. 2-я серыя. **12.10** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.10** «Ікар і мудрацы», «Крымская легенда», «Дама здавала ў багаж». Мультфільмы. **15.45** Тэлебачанне — школе. Чалавек і свет. 3-і клас. Расліны і жывёлы поля. **16.05** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.30** Радавод. Харэаграфічны фальклор вёскі Ласі Бабруйскага раёна. **16.55** Педагагічны экран. Вучнёўскае самакіраванне. **17.40** Творцы. Народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка. **18.10** «Будзьце здаровы». **18.25** Музычны антракт. **18.40** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). 1-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.15** А. Болтнеў, Н. Русланава, А. Міронаў у маст. фільме «Мой сябар Іван Лапшын». **23.50** Дзённік фестывалю «Залаты шлягер». **24.00** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір», «Мы і рынак». **11.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» 9-я серыя. **13.00** «Жоўты бусел». Мультфільм. **13.10** Брэйн рынг. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Горад сабак». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мультытролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Адгадай мелодыю. **19.00** Тэма. **19.45** Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Барыс Андрэеў, Пётр Алейнікаў, Марк Бернэс у фільме «Вялікае жыццё». **23.50** Навіны. **0.00** Серыял «Пятніца, 13». **0.55** Праграма перадач.

### Расія

**6.00** Ранішні экспрэс. **6.25** Па дарозе на працу. **6.35** «Мак і Матлі». Серыял. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Ранішні экспрэс-2. **7.50** Экспавеснік. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** «Дарагая рэдакцыя...» **8.55** «Санта-Барбара». **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **10.20—11.15** «Санта-Барбара». **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.10** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.20** Спяваюць драматычныя артысты. **17.45** Надзвычайны канал. **18.15** Лідэр-прагноз. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Раз у тыдзень. **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** Ад фортэ да піяна. **21.30** «Выкрыццё прышэльца — факт ці выдумка». Дак. фільм (ЗША). **22.30** Эх, дарогі! **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **24.00—0.55** Гукавая дарожка

### Санкт-Пецярбург

**12.10** «Першае каханне». Серыял. **13.00** Тэрмін адказу — сёння. **13.25** Парады садаводам. **13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **14.05** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **14.55** Чэмпіянат Еўропы па дзюдо. **16.05** Тата, мама і я — спартыўная сям'я. **16.35** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял. **16.55** Дзецям пра зверанят. **17.20** «Сапраўднае мядзведзяня». Мультфільм. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Формула згоды. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **21.55** Падзея. **22.10—23.25** «Крах інжынера Гарына». Маст. фільм. 1-я серыя.

### НТБ

**7.00, 9.00, 11.00, 13.00** Сёння. **7.15** «Маісей заканадаўца». Серыял. 2-я серыя. **8.05** Лепшыя цыркі свету. «19-ы міжнародны фестываль цырка ў Монтэ-Карла». Частка 1-я. **9.15** Маст. фільм «Лурджа Магданы». **10.20** Лацінаманія. **10.45** Доктар Вугал. **11.15** Маст. фільм «Чалавек з страхавой кампаніі» (Вялікабрытанія). **12.45** Рускі альбом. Група «Брава». **13.15** Фестываль міні-серыялаў. «Жанчыны з Дзікага захаду» (ЗША). 1-я серыя.



### Расійскія універсітэты

**14.55** «Вядомы і самы вытанчаны Мацвей Казакоў». Дак. фільм. **15.15** Ю. М. Лотман. Гутаркі пра рускую культуру. **16.00** Урокі малявання. Монатыпія. Заняткі 1-я. **16.15** ВГІК. Гарызонты кіно і відэа.

### НТБ

**17.00** Мультсерыял «Горац» (Францыя). **17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам». **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Герой дня. **19.00** П. Дэваэр у фільме «Псіхатэрапеўт» (Францыя). **20.40** Рускі альбом. **21.35** «Жанчыны з Дзікага захаду». 2-я серыя. **22.30** Часінка. **23.20** Вялікі рынг. **23.50** Меламанія. «Эрык Клэптан».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6790.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12